РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 1 РУБ.

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №39, 12 КАСТРЫЧНІКА 1992 ГОДА.

СЁННЯ:



## МІНСК ЧАКАЕ ЦЯБЕ, МАРЫЯ!..




■ стар. 5

# ГЭТАЙ СІЛАЙ ВЫСТАЯЛІ ПРОДКІ...



*У мастацтва шмат загадак. З якога сусветнага кастрычча западае ў чалавечую душу іскра (а часам — полымя) таленту? І чаму менавіта ў гэтую душу? І чаму кожны распараджаецца ёю па-свойму — адзін затопча ў мітусні побыту, другі проста не зверне на боскі падарунак асаблівай увагі. А трэці — прыме як наканаванне, падпарадкуе сябе і сваё жыццё сілам, якія, нібыта хвалі агромністага акіяна, кідаюць чалавечае існаванне ўвысь і ўніз, нібыта маленькую хісткую лодку, таму што талент — і шчасце, і пакута...*

*Дух імкнецца ўвайсці ў матэрыю, падпарадкаваць яе. Мастак пры дапамозе прымітыўных, здавалася б, сродкаў — пэндзля, фарбы — выказвае невыказнае, стварае свет, які бачым мы і які перарабляе нас. Калі мастак — Майстар.*

*Свет Леаніда Шчамялёва ўваходзіў у жыццё, скажам, нашага пакалення не адразу.*

*З юнацтва помняцца выставы, дзе гэтае імя ўспаміналася, прычым, чамусьці, з нейкім адценнем незадаволенасці, сумнення, з аднаго боку. З другога ж — гаварылася, што гэта — сапраўднае мастацтва, што вырастае цікавы і таленавіты творца.*

Працяг на 5-й стар.

## МАСТАЦТВА ПАД АЎТАМАТНЫМ ПРЫЦЭЛАМ,

або Як беларусы спасцігалі арабскі рынак

■ стар. 4

## СЛОВА РЭДАКТАРА



# АБЕРАГЧЫ ПАРАСТКІ

Прайшоў роўна год з часу, калі выйшаў у свет першы нумар газеты «Культура». Ён не стаў сколкам былой «Савецкай культуры», а абраў свой шлях, стаў газетай грамадска-асветніцкай. З якімі думкамі прыступаем да другога гадавога кола паўсядзённых клопатаў і турбот?

... Першая хваля энтузіязму, якая так высока ўзняла нашыя душы ўсяго два гады назад, абнадзеіла прыходам новага, даўно спадзяванага, — схлынула. Адраджэнне супала з разбурэннем, і многія падмуркі, што захісталіся, пагражаюць заваліць друзам парасткі, якія мы абаранялі ў самыя марозныя часы. Кажу —"мы", таму што ва ўсіх справах Адраджэння вакол — тыя ж людзі, якія ўпарта змагаліся за нацыянальнае, насілі ў сэрцах любоў да Бацькаўшчыны і дваццаць, і дзесяць гадоў назад. Маладыя энтузіясты, якія тры гады назад дружна браліся «ў рожкі» нават і з нашым пакаленнем, не кажучы пра папярэднія, неяк дружна пайшлі ў камерцыю ( а абяцалі нечуваныя дасягненні ў галіне паэзіі і прозы, а таксама і ў асвеце нашага недасведчанага насельніцтва). Зірнуць навокал — усе яны, Адам Мальдзіс, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Зянон Пазняк, Алег Трусаў, рэдактары беларускіх выданняў, пешматлікая апазіцыя нясуць, як тыя атланты, на плячах невыносна цяжкі груз змагання. Стала цяжка знайсці проста дасведчанага, пісьменнага, нацыянальна свядомага журналіста, а тыя, што ёсць, што працуюць, пачалі са страхам узірацца ў будучыню: слова абясцэньваецца, як імкліва абясцэньваецца культура, мастацтва.

Разам з тым відавочна, што калі для культуры гэтыя гады былі гадамі выжывання, то ў палітыцы яны былі разам з тым часам вельмі разумнай, проста-ткі мэтанакіраванай кампаніі па дыскрэдытацыі дэмакратыі. Усе пралікі, правалы эканамічнай палітыкі бальшавізму (як учарашняга, так і сённяшняга) сталі ў масавай свядомасці прыпісвацца тым, хто ніякай улады так і не атрымаў, хто апынуўся ў развале і неразбярысе не па сваёй віне.

Кажуць, што простаму чалавеку жыць стала цяжэй — не толькі матэрыяльна, але і маральна. Асабліва ў раёне, вёсцы, дзе «планка начальства» ўзнялася да нечуваных высотаў.

Але калі ў сталіцы ёсць змены, хаця і невялікія, то ў глыбінцы не памянялася нічога. Вось і ідзе чалавек да тых кіраўнікоў, просіць вырашыць яго праблемы. Але кіраўнікі за два-тры апошнія гады добра зразумелі, што над імі няма нікога —хапай, што можаш, што здолееш! Вось і хапаюць — бо тое, што стрымлівала ў мінулыя стагоддзі — рэлігія — сёння пусты гук. У мінулыя дзесяцігоддзі трохі стрымліваў страх страціць партбілет — сёння гэта таксама пусты гук. Вось і атрымліваецца, што не баяцца гэтыя людзі ўжо ні бога і ні чорта... А іншыя механізмы — напрыклад, уздзеянне знізу, ад людства — не ўключаныя. Дэмакратычныя інстытуты амаль незнаёмыя.

...Прыязджаючы ў раён, добра бачыш магутна спаяныя за доўгія гады карані ўлады. Старшыня райвыканкама — пракурор —суддзя — галоўны рэдактар раённай газеты — загадчык аддзела культуры райвыканкама — пераплялія, паперамяньваліся, можна сказаць, зрадніліся (па вертыкалі). І самы, мабыць, бяспраўны і апошні загадчык аддзела культуры. Гэта ў сваім родзе масавік-зацейнік, а падначаленыя яму людзі падначаленыя, перш за ўсё, уласным старшыням калгасаў-саўгасаў...

Менталітэт раённага начальства (калгасна-саўгаснага таксама) каваўся доўгімі гадамі ў аднойдзвюх кузнях: Інстытуце механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце альбо Віцебскім ветэрынарным. І вынік гэтага выдатна бачны на прыкладзе парламента, асноўная большасць якога — не гуманітарыі. Але і сельская гаспадарка, і эканоміка, якую вывучалі нашы заканадаўцы і сённяшнія начальнікі — сацыялістычная, і ніякай іншай яны пакуль не ведаюць. У гэтых кузнях, між іншым, не вучылі ні гісторыі роднага краю, ні, тым болей, асновам культуры хаця б у самых агульных яе абрысах. І добра, калі ці геннай памяццю бацькі-настаўніка, ці незачарсцвелым сэрцам разумее прадстаўнік улады неабходнасць бібіліятэкі, музея, музычнай школы. А калі не?

Тады — культасветработнікі першымі адпраўляюцца на бульбу ці на буракі, як быццам культасветработа — гэта свайго роду лайдацтва, а не кваліфікаваная праца. Калі зарплату клубніку дае сельсавет, то гэта — кіданне, як жабраку, і папрок у дармаедстве. Гэта — і статус яго ў маленькім, маштабу сельсавета —грамадстве як амаль што непатрэбнага гэтаму грамадству...

Дэмакратыя і культура непарыўна звязаныя. Дэвальвацыя дэмакратыі прывяла да дэвальвацыі культуры, да чаго прывядзе апошняе?

Відавочна — мы маглі б ісці па нашай дарозе з меншымі стратамі. Відавочна — многія эканамічныя рашэнні былі б больш разумнымі і прымаліся больш ахвотна, калі б на чале нашага грамадства былі іншыя людзі, чыя культура дазволіла б ім прыўзняцца над замшэлымі, змярцвелымі догмамі і зірнуць на свет і на Беларусь, зыходзячы з аб'ектыўных законаў чалавечай грамады.

А пакуль — будзем працаваць, пакуль хопіць сіл і ўмення, каб культура стала неабходнай часткай ( не, не часткай — крывяноснымі сасудамі) грамадства, якое ў корчах і пакутах нараджае новае...

# МАСТАКІ ЎВАХОДЗЯЦЬ У РЫНАК

Выстава «Жыве Беларусь», што адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі, — галоўная справаздача мастакоў рэспублікі ў гэтым годзе. Яна прысвечана 110-м угодкам народных паэтаў Я.Купалы і Я.Коласа.

Адметнай рысай выставы з'яўляецца тое, што яе экспазіцыя сфарміраваная без адпаведных дагавораў. І справа не ў тым, што Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь адмовілася зрабіць у цяжкі перадрыначны перыяд мастакам дзяржзаказ. Створаны пры міністэрстве Савет па мастацтву прыняў рашэнне накіраваць сродкі не на папярэдняе фінансаванне твораў, якія рыхтаваліся да выставы, а на набыццё іх.

Мастакі атрымалі поўную свабоду дзеянняў. Кожны глядач з улікам ступені яго падрыхтоўкі мае магчымасць на выстаўцы знайсці адпаведны свайму сэрцу імпульс умоўнай энергіі.

На вернісаж былі запрошаны аматары выяўленчага мастацтва, прадстаўнікі грамадскасці, інтэлігенцыі, святары.

—Хочацца спадзявацца, што ўсе мы, веруючыя і няверуючыя, —сказаў, звяртаючыся да прысутных, міністр культуры Яўген Вайтовіч, — адзіныя ў падыходзе да сцвярджэння аднаго тэзіса —"Няхай будзе мір у нашым агульным беларускім доме, няхай жыве Беларусь".



Дзеячы выяўленчага мастацтва перадалі абраз — Маці Боская Адзігітрыя ў царкву вёскі Дубянец Столінскага раёна, скульптурную выяву ў касцёл вёскі Гнёзна Ваўкавыскага раёна.

Выставы пад дэвізам «Жыве Беларусь» будуць праводзіцца штогод да Дня незалежнасці нашай рэспублікі.

# МЫ - ДАМОВІЛІСЯ!

НЯДАЎНА было парафіравана пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне адукацыі, навукі, культуры і спорту паміж Турцыяй і Беларуссю. У Міністэрстве культуры адбылася сустрэча пасла Турцыі Тансу Окандан і пасла па асобых даручэннях Міністэрства замежных спраў Турцыі Ісмета Бірсэля з міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Яўгенам Вайтовічам. На сустрэчы Ісмет Бірсэль падзяліўся ўражаннямі ад знаёмства з нашай краінай і выказаў некаторыя меркаванні ў звязку з дамовай аб супрацоўніцтве:

—Тое пагадненне, што мы падпісалі, мае важнае значэнне. Па сутнасці яно ахоплівае ўсе гуманітарныя накірункі. І калі казаць шчыра, то праграма атрымалася даволі амбіцыйная. Наступныя два гады пакажуць, што з гэтай праграмы мы здолеем ажыццявіць. Натуральна, аднаго жадання будзе мала.

Жаданне супрацоўнічаць — гэта вялікая справа, але ўсё залежыць ад нашых фінансавых магчымасцяў. Калі ў нас не будзе дастаткова сродкаў, то многае застанецца на паперы. Аднак я перакананы — нас чакае поспех. Зарукай таму падпісаная дамова, якая выразна сведчыць аб імкненні ўрадаў Беларусі і Турцыі да супрацоўніцтва.

Беларусь — вельмі прыгожая краіна, народ яе спагадлівы і шчыры. За гэтыя дні я пераканаўся, што вашыя людзі хочуць сябраваць з намі.

У вашага народа захаваліся багатыя культурныя традыцыі. Мы пазнаёміліся з фальклорным калектывам Казінца і былі ўражаныя як музычнымі інструментамі, так і ўзроўнем выканання. Я зраблю ўсё магчымае, каб гэты калектыў прыехаў на гастролі ў Турцыю. У мяне няма сумнення, што турэцкая публіка будзе ад яго ў захапленні.

Багацце і самабытнасць фальклору беларускага народа — відавочныя. У гэтым я канчаткова ўпэўніўся, прагледзеўшы некалькі тэлеперадач з удзелам фальклорных ансамбляў.

Спадабалася мне і беларускае мастацтва. Я наведаў некалькі галерэй і павінен зазначыць, што яно займае сваё, адметнае сярод іншых, месца. Я нават набыў на памяць карціну «Пейзаж Радашковічаў». Было б няблага, каб мы ў бліжэйшы час змаглі абмяняцца выставамі маладых мастакоў. Хаця мастак ніколі не старэе, але даволі часта здараецца, што старэе ягонае мастацтва.

Дарэчы, мы агледзелі і спартыўны комплекс у Раўбічах. Ён мяне ўразіў. У Раўбічах я зразумеў, скуль узяліся ў Беларусі семнаццаць залатых медалёў на апошняй Алімпіядзе...

Праграма нашага візіту яшчэ працягваецца, але ўжо сёння я не сумняваюся, што падпісанае паміж намі пагадненне ў бліжэйшай будучыні будзе мець рэальны плён і адыграе істотную ролю ў наладжванні культурных узаемасувязей паміж беларускім і турэцкім народамі.







# ПОМНІК ЛЯВОНУ БАРАЗНЕ

СКРЫПКА грала «Перапёлачку». Ёй туравалі другая, трэцяя... Гэта плакала беларуская душа. Плакала беларуская душа каля грудка зямлі талачынскай, дзе спачыў на вякі слынны сын Беларусі, яе рыцар высакародны, мастак і грамадска-культурны дзеяч Лявон Баразна. Прайшло 20 гадоў з часу, як рука забойцы-злыдня адняла жыццё ў Чалавека. Увесь гэты час мы былі без Яго і разам з ім. Усе гады бальшавіцкай няволі мы памяталі пра яго, і ягоная зорка нас акрыляла, падтрымлівала, надавала ўпэўненасці ў барацьбе за волю. І як яго нам неставала ў 1986, у 1988, 89, 90, 91. І нарэшце — незалежнасць. Гэта ягоны ідэал, ягоная мэта...

І вось 3 кастрычніка на могілках ля станцыі Талачын, міма якіх цягнікі імчацца з Захаду на Усход і з Усходу на Захад, сабралася грамада людзей, каб урэчаісніць надмагільны помнік Чалавеку, Рыцару, Мастаку — Лявону Баразне. 20 гадоў мы ішлі да гэтага дня. Помнік павінен быць годны гэтага Чалавека. І на шляху да гэтага дня былі няўдачы, многія няўдачы: скульптуры, якія браліся за помнік, не маглі скончыць працы... А Мікола Купава, які па волі лёсу і па абавязку сумлення ўзяў на сябе клопат па арганізацыі ўсіх работ над надмагіллем, фактычна стаў заказчыкам — не адступаўся. І на гэты раз ужо ўпэўнена за работу ўзяўся Валяр'ян Янушкевіч, малады скульптар. Разам са Скарынаю і Міцкевічам...

І вось бронзавая Маці-Беларусь у скрусе і смутку на магіле Чалавека і Мастака. Прыйшлі сюды мастакі і журналісты, паэты і работнікі, каб праз дваццаць гадоў тут запела скрыпка, заплакала беларуская душа.

Мікола Купава распачаў тужліва-ўрачыстае веча. Праваслаўны святар айцец Вячаслаў асвяціў надмагілле, а хор Беларускага Праваслаўнага Брацтва трох Віленскіх пакутнікаў адспяваў на беларускай мове псалмы. Няхай на вуснах а.Вячаслава родная мова гучала яшчэ не ў поўную сілу, але гэта было шчыра і ўсвядомлена. Выступалі мастакі Э.Агуновіч, І.Стасевіч і Я.Кулік, навукоўцы Я.Хаўратовіч, У.Конан, мастацтвазнаўцы М.Раманюк і Г.Сокалаў-Кубай, паэты Р.Барадулін і Галіна Вайтовіч. Былі кветкі ў збанках Лявона Панамарэнкі, прыгожы вянок, зроблены кабетамі БНФ, і агеньчыкі свечак, дрыготкія вочкі свечак і слёзы, і памяць пра мінулае, пра вечнасць, пра Чалавека. Гэта надмагілле — вечнасць Лявона, яго працяг. Сумная Элегія. А над могілкамі лунаў «Магутны Божа».

Мар'яна БАЗЫЛЕВІЧ.

# СВІСТУЛЬКА ПАД АЎТАМАТНЫМ ПРЫЦЭЛАМ

**Літаральна на днях споўніцца паўгода, як Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь марна намагаецца вярнуць з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў творы беларускіх жывапісцаў і вырабы народных майстроў, прэзентаваных на Міжнароднай выставе Шарджа —ЭКСПА-92. Агульны кошт выставачных экземпляраў складае 42 тысячы амерыканскіх долараў...**



Здавалася б, сітуацыя сапраўды парадаксальная: ці не самая багатая краіна ў свеце, якой на сённяшні дзень з'яўляюцца Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, дакладней, фірма «Форвейз Карго», размешчаная на тэрыторыі гэтай заможнай дзяржавы, паквапілася на маёмасць далёка не заможнай на сённяшні дзень Беларусі ў асобе цэнтра «Беларт» Саюза мастакоў рэспублікі. І ўсё ж, як кажуць, парадокс — але факт. Факт і тое, што больш за сотню аўтараў штодзень абіваюць парогі роднай установы, спрабуючы даведацца пра лёс сваіх твораў, дасланых на выставу-кірмаш яшчэ ў сакавіку. Інцыдэнт, абрастае новымі і новымі версіямі, здагадкамі, домысламі пацярпеўшых матэрыяльна творцаў. Вядома ж, спадзяваліся атрымаць долары, а тут нават рублямі не збіраюцца разлічвацца. Нешта не чыста ў гэтым самым «Беларце»...

Думаю, што ў складанай для цэнтра «Беларт» сітуацыі разбяруцца кампетэнтныя органы юстыцыі. Мая задача — іншая: прасачыць хроніку падзей гэтай сумнай і пакуль таямнічай гісторыі, а таксама паспрабаваць вытлумачыць тое, што паспрыяла неспадзяванаму, але, можа, і заканамернаму фіналу.

## «Сапраўдны дагавор уступае ў сілу...»

Бадай не абысціся без цытавання пэўных дакументаў, якія перадалі мне ў Саюзе мастакоў. Запрашэнне, датаванае 24 лютым: «Фірма «Форвейз Карго» сумесна з Карпарацыяй «Асіяімпэкс» сведчыць сваю павагу і запрашае наведаць горад Шарджу Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў з 30 сакавіка па 12 красавіка 1992 года для ўдзелу ў Міжнароднай выстаўцы-кірмашу спадароў: Казакевіча Аляксандра Мустафавіча — дырэктара фірмы «Беларт», Лявонцьеву Таццяну Іванаўну — мастацтвазнаўцу Саюза мастакоў РБ, Карчынскага Сяргея Сцяпанавіча — таваразнаўцу ЗА «Беларусінторг».

Удзельнічаць у міжнароднай выстаўцы-кірмашы — справа не толькі ганаровая, але і перспектыўная ў фінансавых адносінах, таму мастакі далі згоду. Аднак існавала галоўная праблема: «Беларт» не меў не толькі валюты, але і рублёвага капіталу. Трэба было шукаць пасрэднікаў.

Дапамагчы творцам узялося вытворча-камерцыйнае прадпрыемства «Сагіта» з Мінска, якое па дагаворы з «Белартам» аплочвала апошняму транспарціроўку грузу, мытныя і іншыя падаткі, авіябілеты, словам, усё тое, што забяспечвала бесперашкодны правоз выставы па тэрыторыі СНД да Алма-Аты і назад. «Беларт», у сваю чаргу, абавязаўся вярнуць крэдыторам укладзеныя імі грошы пасля закрыцця кірмашу, а за аказаныя паслугі — адлічыць на карысць «Сагіты» дзесяць працэнтаў чыстага прыбытку ў СКВ, атрыманага ў час выставы ў Аб'яднаных Эміратах.

Але каб перасекчы мяжу і трапіць на арабскую зямлю, каб мець там магчымасць два тыдні жыць і працаваць, патрэбны быў яшчэ адзін пасрэднік. Так «Сагіта» па рэкамендацыі «Беларусінторга» ўступіла ў перамовы з алмаацінскай карпарацыяй дзелавога супрацоўніцтва з замежнымі краінамі «Асіяімпэкс». Быў падпісаны кантракт, згодна якому «Асіяімпэкс», у прыватнасці, абавязалася перавезці выставу беларускіх мастакоў і народных майстроў з Алма-Аты да горада Дубаі, што на тэрыторыі ААЭ, і даставіць нерэалізаваную на кірмашы прадукцыю назад, г.зн. да Алма-Аты. За гэтыя і іншыя паслугі беларускі партнёр павінен быў выплаціць пасля заканчэння выставы 50 % ад сумы рэалізацыі выставачнай прадукцыі. Подпісы пад кантрактам паставілі генеральны дырэктар «Асіяімпэкс» доктар Аль-Кейсі Ісхан і дырэктар «Сагіты» І.Н.Рудзіцкі.

Апошні, трэці пасрэднік «Беларусінторг» па заказе «Сагіты» павінен быў афармляць дакументы на вываз, праводзіць камерцыйныя перамовы, рыхтаваць і падпісваць кантракты на экспарт тавараў. За сваю справу гэты кампетэнтны памочнік павінен быў атрымаць камісійную ўзнагароду ў памеры 3 % ад сумы прададзенага тавару ў валюце першай групы з рублёвым пакрыццём. Дагавор падпісалі генеральны дырэктар «Беларусінторга» В.В.Андрушын і кіраўнік «Сагіты».

Аднак, пакіну пакуль стос дакументаў, да іх яшчэ вярнуся, і перадам слова непасрэдным сведкам тых падзей, якія адбываліся на выстаўцы-кірмашу ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

## «Мы выбеглі з самалёта: зона ахоўвалася ўзброенымі паліцэйскімі...»

Інакш, як дэтэктыўным, сюжэт, які намалявала мне Таццяна Лявонцьева, мастацтвазнавец па рабоце з народнымі майстрамі, не назавеш. Першыя яе словы былі такія: «Калі наша дзяржава не адрэагуе на тое, што здарылася, дык нам нічога не вернуць...»

Пра тое, што Саюз мастакоў спрабаваў шукаць выйсце са становішча праз дзяржаўныя ўлады, сведчыць ліст старшыні гэтай творчай арганізацыі Генадзя Буралкіна да міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі, датаваны 20.07.92 г. Вось што, у прыватнасці, у ім напісана: «...У ходзе выстаўкі нам быў аказаны вельмі цёплы прыём з боку Таварыства Мастакоў г.Шарджа, а таксама ў Міністэрстве інфармацыі і культуры ААЭ. На сустрэчах з імі быў дасягнуты цэлы шэраг папярэдніх пагадненняў аб далейшым творчым супрацоўніцтве паміж нашымі краінамі. Вынікі гэтых сустрэч шматабяцальныя, аднак пры нашым адлёце адбыўся непрыемны інцыдэнт, які ставіць пад сумненне дасягнутае. У дзень ад'езду, нягледзячы на тое, што кіраўніцтвам фірмы «Форвейз Карго» нам было паведамлена пра поўную пагрузку ў самалёт нашага грузу, літаральна ля трапа самалёта пасля праходжання візавага кантролю высветлілася, што ні груз Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь, ні груз фонду культуры Рэспублікі Казахстан у самалёт не загружаны, бо ён запоўнены таварамі фірмы «Форвейз Карго». Нам абяцалі на працягу трох дзён адправіць груз рэйсам «Аэрафлоту», аднак прайшло ўжо больш за два месяцы, а фірма «Форвейз Карго» не вярнула груз. На наш зварот у «Аэрафлот», каб вывезці выстаўку, прадстаўнік «Аэрафлоту» ў г.Шарджа паведаміў, што фірма «Форвейз Карго» адмовілася вярнуць груз.

Улічваючы тое, што ў адпаведнасці з кантрактам фірмай «Форвейз Карго» не вернуты творы мастацтва, якія належаць вельмі многім вядомым у рэспубліцы і за яе межамі прадстаўнікам творчай інтэлігенцыі, пераканаўча просім Вас аказаць дапамогу ў іх вяртанні».

Міністр адразу даў распараджэнне сваім адказным супрацоўнікам высветліць пэўныя дэталі сітуацыі. На жаль, як паведаміў мне па тэлефоне начальнік аддзела інфармацыі міністэрства Станіслаў Сяргеевіч Агурцоў, нічога новага не праяснілася. Патрэбна матывіроўка адмовы з боку фірмы «Форвейз Карго», растлумачыў ён і дадаў, маўляў, беларускай дэлегацыі варта было не пакідаць груз на волю лёсу, а заставацца ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, пакуль творы мастацтва не пагрузяць і канфлікт не будзе вычарпаны.

Што ж, можа і так, але я асабіста не бяруся быць трацейскім суддзёй, паслухаўшы далей Т.Лявонцьеву:

—Яшчэ за колькі дзён да адкрыцця выставы, калі мы з нашымі творамі прыбылі ў Алма-Ату, пачаліся пэўныя парушэнні кантракту з боку пасрэдніцкай фірмы «Асіяімпэкс». Двое сутак мы чакалі адпраўлення ў Арабскія Эміраты. Нарэшце нам далі магчымасць вылецець папутным, чартэрным рэйсам на грузавым самалёце, які перавозіў нейкія антэны. Далей. Выстаўка наша, без перабольшання, карысталася вялікай увагай: мы прадалі за два дні, напрыклад, керамікі, саломкі, іншых дробных вырабаў народных майстроў недзе на тысячу долараў. Але нас прымусілі «згарнуць» экспазіцыю. Такім чынам, замест двух тыдняў, вызначаных кантрактам, нам далі магчымасць працаваць дзён пяць. Але і за гэты кароткі час мы нагандлявалі, можна сказаць, амаль на чатыры тысячы долараў. Значыць, наша мастацтва спадабалася! Закрыццё беларускай экспазіцыі стваральнікі выстаўкі-кірмашу матывавалі вялікімі выдаткамі на экспазіцыйную плошчу (нам было прадстаўлена нешта накшалт летняга ангара з брэзентавым дахам). Словам, мастацкія рэчы нам не далі прадаць, хоць я асабіста прапаноўвала, што буду гандляваць на вуліцы за столікам, у гасцініцы. Мне адмовілі, маўляў, не ў нашых традыцыях. Пратрымалі нас такім чынам у Эміратах 26 дзён, не кампенсаваўшы вымушанае знаходжанне ніякім чынам. А трэба ж было кожны дзень есці...Да таго ж, замест гасцініцы ў Шарджы нас пасялілі ў інтэрнаце, дзе нават, прабачце, прасцінаў не было. Добра, што я ўзяла з сабою кавалак паралону, дык было што пакласці пад галаву замест падушкі. Мы хадзілі па інстанцыях, патрабавалі, каб нам далі магчымасць вярнуцца на радзіму, але ў адказ — адгаворкі, маўляў, як прыбудзе нейкі там груз з Канады, дык гэтым жа самалётам нас і адправяць... І нарэшце —доўгачаканы дзень ад'езду. Зрабілі вопіс рэчаў, акантавалі скрыні з выставачнымі экземплярамі. У аэрапорт мы ад'язджалі аўтобусам, а наш груз перавозілі на грузавой машыне. Прайшлі мытню, нам паставілі ў пашпартах штамп: выпісаны з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Груз тым часам прайшоў праз іншую стойку. Нам некалькі разоў паведамілі, у тым ліку першы намеснік камандзіра карабля Расейскай авіякампаніі, што груз знаходзіцца ў самалёце. Мяне, дарэчы, тады здзівіла: а навошта столькі разоў трэба пра гэта паўтараць? Нарэшце — мы ў самалёце. Я папрасіла, каб нам паказалі, у якіх умовах транспарціруецца наш груз. І раптам чую ад камандзіра экіпажа: «Ваш груз не ўзялі, няма месца». Мы выбеглі з самалёта: уся зона ахоўвалася ўзброенай паліцыяй, каля трапа стаяў кіраўнік фірмы «Форвейз Карго». Мы заявілі, што не паляцім, пакуль груз не будзе з намі. Але... Як нам у адказ паведамілі, заставацца мы маглі толькі на ўзлётнай паласе, бо не маем больш права без візы ступаць на гэтую зямлю! Камандзір карабля Сідарэнка кінуўся да нас са словамі: праз тры дні, клянуся!, я забяру ваш груз... На роздум заставаліся сапраўды секунды, бо каб далі ўзлёт лайнеру з Арабскіх Эміратаў, трэба запрошваць некалькі краін, над тэрыторыяй якіх павінен пралятаць самалёт. Дырэктар «Беларта» Саша Казакевіч узяў распіску ў камандзіра карабля, што праз некалькі дзён той даставіць нам нашыя скрыні. Заставалася спадзявацца толькі на сілу дакумента... Мы вярнуліся дадому. Спрабавалі высвятляць становішча і праз Маскву, і праз Алма-Ату. Але ўсё дарэмна... Круціцца нейкая няпэўная версія вакол нашай гісторыі: маўляў, фірма-пасрэднік «Асіяімпэкс» мае запазычанасць перад «Форвейз Карго» і апошняя апячатала наш груз...

## Дзе выйсце?

Дырэктар «Беларта» А.Казакевіч бачыць яго ў адным: судзіцца. З кім? З фірмай «Асіяімпэкс». Дарэчы, толькі за тое, каб звярнуцца ў Арбітражны суд Рэспублікі Казахстан з іскавай заявай, Саюзу мастакоў давядзецца заплаціць пошліну ў 400 тысяч рублёў.

Але ў мяне асабіста ёсць пытанне: чаму Саюз мастакоў і чаму — у Казахстан. Можа, спачатку прад'явіць прэтэнзіі фірмам-пасрэднікам на тэрыторыі роднай дзяржавы. У прыватнасці, «Беларусінторгу»? Подпіс менавіта супрацоўніка «Беларусінторга» стаіць пад словамі «абавязуемся ўвезці маёмасць назад да 1.05.92 г. Адказны — Карчынскі С.С.» у грузавой мытневай дэкларацыі. Менавіта ён, спадар Карчынскі, выкрасліў у кантракце вельмі важны пункт, згодна якому «Асіяімпэкс» бярэ на сябе «забеспячэнне транспартам і пагрузачна-разгрузачныя работы, звязаныя з дастаўкай не рэалізаванай на выстаўцы прадукцыі ў СНД, на працягу 30 дзён з даты заканчэння выстаўкі». Так, знішчаны адзіны на ўвесь кантракт пункт, які агаворваў канкрэтны тэрмін і фактычна гарантаваў бяспеку творам мастацтва. А ці меў наогул права подпісу сп. Карчынскі? Чым кіраваўся, карэкціруючы дакумент не на карысць рэспублікі і не маючы на тое ніякіх юрыдычных паўнамоцтваў? Відаць, вельмі хацелася трапіць у «залатую» краіну, калі «падмахнуў» у Алма-Аце фактычную фальшыўку: на кантракце няма нават пячаткі фірмы «Сагіта». Дык, выходзіць, дакумент увогуле несапраўдны?

І яшчэ. Хацелася б даведацца, як гэта супрацоўнікі «Беларусінторга», рыхтуючы дакументацыю на экспарт твораў мастацтва, не застрахаваліся ад розных акалічнасцей, такога вось непрыхаванага піратства з боку замежнага партнёра? Калі б быў уведзены пункт, у якім абгаворваліся канкрэтныя няўстойкі, якія павінна была б аплаціць «Асіяімпэкс», — наўрад ці ўзнік бы інцыдэнт на міжнародным узроўні.

Такіх прыкрых хібаў, калі не казаць пра элементарныя арфаграфічныя памылкі ў кантрактах, дагаворах, іншых дакументах — процьма. Непісьменнымі і неахайнымі ўступаем мы ў сусветныя рыначныя адносіны. Так, не маем мы ні вопыту, ні асацыяцыі спрактыкаваных юрыстаў-міжнароднікаў, якія маглі б заступіцца за сваю дзяржаву на міжнародным узроўні. Той жа «Беларусінторг» у дагаворах спасылаецца на «Основные условия регулирования договорных отношений при осуществлении экспортно-импортных операций» (ПСС СССР N 888 от 15.07.88 г.). Карацей кажучы, карыстаецца законам дзяржавы, якая даўно не існуе. Дык ці не час, шаноўныя спадары-заканадаўцы суверэннай Беларусі, паклапаціцца пра свае ўласныя законы?

І апошняе. Перш чым увайсці ў кантакт з рынкам, яго запатрабаванні трэба вывучыць. Вось і ў гэтай гісторыі ёсць свае павучальныя нюансы. Не давялося б таму ж Сашы Казакевічу чырванець, калі ў Шарджы падыйшоў да яго наведвальнік кірмаша і, пакруціўшы пальцам каля скрыні, павёў да павільёна з персідскімі дыванамі машыннай работы. Адзін дыван каштаваў 60 долараў. Наша ільняная сурвэтка — столькі ж...

Людміла КРУШЫНСКАЯ.

P.S. *Калі вярстаўся нумар, у рэдакцыю прыйшоў Мікалай Канстанцінавіч Абмётка, былы камерцыйны дырэктар «Сагіты», яшчэ адзін непасрэдны сведка інцыдэнту ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. Думаю, што факты, пра якія ён паведаміў, — падстава для выступлення газеты ў адным з чарговых нумароў.*

Л.К.

# ПАЗНАЙ СВО

Яўген ШЫРАЕЎ,
г. Масква:

## «Я — ЗА НАЦЫЯНАЛІЗМ НА БЕЛАРУСІ»

Гістарычна склалася так, што беларуская супольнасць у сваіх адносінах да культуры, мовы і рэлігіі разбілася на тры асноўныя накірункі: патрыятычна настроеных, тых, хто адстойвае сваю культуру, мову і рэлігію, заснаваную на уніяцтве або аўтакефальнай праваслаўнай беларускамоўнай царкве; настроеных па-руску, гэта значыць — на грунце сімпатыі да рускай культуры, мовы і рускай праваслаўнай царквы; настроеных па-прапольску — з пераважнаю сімпатыяй да польскай культуры, мовы і польскага касцёла.

Тэндэнцыі да такога падзелу бяруць свой пачатак ад сярэднявечча з часоў існавання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Найбольш моцная палярызацыя ў грамадстве назіралася падчас першай і другой сусветнай войнаў.

Сёння надзвычай важна, каб грамадства зразумела, што сапраўдная беларуская культура — гэта не зусім тая, якую дзесяцігоддзямі прапагандавалі бальшавіцкія і польскія шавіністычна настроеныя ідэолагі і гісторыкі. Свае псеўдадэмакратычныя погляды яны засноўвалі на прызнанні за беларусамі галоўным чынам сялянскай культуры і адмаўлялі спадчыну народа, створаную адукаванай арыстакратыяй, прыкладам, у галіне класічнага мастацтва, матывуючы гэта адсутнасцю, на іх погляд, у беларускай гісторыі дзяржаўнасці. Няспынна даводзілася, што беларуская культура — гэта культура сялян. Прычым гэтая канцэпцыя звязвалася з сялянскім паходжаннем мовы, апошняя — у непарыўнай узаемасувязі з культурай.

Несумненна, сваёй багатай народнай культурай мы абавязаны сялянству, але гэта не азначае, што беларуская культура на тым і вычэрпваецца. Па сутнасці ў шырокім сэнсе яна мае багацейшую спадчыну, сягае за рамкі сялянскай культуры. Яна не абавязкова павінна абмяжоўвацца сферай узаемачыннасці з мовай.

Вельмі горкую, негатыўную ролю ў лёсе беларускай мовы адыгралі польскія шавіністы, якія на працягу стагоддзяў грэбліва, непаважліва ставіліся да яе. Мову яны падавалі як грубую, як мову малакультурнага сялянства ўскраінаў Рэчы Паспалітай. На жаль, і сёння сярод польска- і часткова рускамоўнага насельніцтва існуе падобнае меркаванне. Усё гэта не магло не мець сваіх прыкрых вынікаў, якія прывялі да таго, што падобныя адносіны да роднай мовы, прышчэпленыя беларусу з маленства



панукочай нацыяй, падсвядома віселі над ім як прыкмета адсталасці культуры свайго народа, сведчанне неінтэлігентнасці.

Прынамсі, гэты псіхалагічны фактар дагэтуль жывы ў свядомасці людзей старэйшага пакалення (пра маладых меркаваць не бяруся). Можа, і сапраўды, беларуская мова, сфармаваная ў нетрах сялянства і перанесеная ў літаратуру без доўгай шматгадовай шліфоўкі, як іншыя мовы, утрымлівае ў сабе немілагучныя формы? Увогуле кожная літаратурная мова кожнае нацыі гістарычна нараджаецца ў нетрах народа (галоўным чынам сялянства), яна толькі надалей удасканальваецца перадавою часткай грамадства —інтэлігенцыяй.

У гэтым сэнсе беларуская літаратурная мова ў сваім гістарычным развіцці нічым не адрозніваецца ад іншых моў, адметнасць хіба ў часе яе фармавання. Не лішнім будзе звярнуць увагу на выказванні асобных аўтарытэтных дзеячаў культуры ў мінулым, прыкладам, на высокую ацэнку беларускай мовы, зробленую Адамам Міцкевічам, а таксама на выказванні некаторых сучасных замежных дзеячаў навукі, напрыклад, Джыма Дзінглі (Англія) або Томаса Бэрда (ЗША), якія з трох усходнеславянскіх моў аддалі перавагу беларускай. Было б, як нам



здаецца, вельмі пажадана правесці экспертную ацэнку на мілагучнасць успрыняцця трох моў —беларускай, рускай і польскай сярод грамадзян іншых краін, не знаёмых з гэтымі мовамі. Гэта трэба не дзеля нейкай рэканструкцыі беларускай мовы, у чым яна, думаецца, не мае неабходнасці, а дзеля аб'ектыўнай яе ацэнкі, з мэтай, з аднаго боку, устараніць несправядліва створаны вакол яе неспрыяльны фон, з другога — узняць яе прэстыж, асабліва сярод моладзі, падрастаючага пакалення. Затым вынікі ацэнкі данесці да ведама шырокай грамадскасці Беларусі. Ёсць унутраная перакананасць, што вынікі будуць на карысць беларускай мовы або раўназначныя. Неабходна пераадолець псіхалагічны бар'ер, створаны нашымі суседзямі.

Маючы перад сабою мэту ўзняць прэстыж беларускай мовы, мы мусім улічваць, што спрадвеку інтэлігентнасць, адукаванасць, вызначаліся найперш па тым, як вы размаўляеце — па мілагучнасці прамоўленых слоў, па логіцы і глыбіні выказанай думкі, прыемнасці інтанацый, багацці і шырыні выкарыстанага вамі слоўнікавага запасу і г.д. Пры гэтым ужывалася мова, якая мела найбольшыя магчымасці і перавагу ў тым або ў іншым шматмоўным (часцей — двухмоўным) грамадстве. Дамінуючае становішча ў такіх выпадках, зазвычай, мела агульнапрызнаная развітая літаратурная мова. З-за чыста псіхалагічных асаблівасцяў чалавека такое імкненне вылучыцца, завалодаць увагаю навакольных абсалютна натуральная з'ява. Асабліва гэта характэрна для людзей, хто выйшаў, як кажуць, з «простага» асяроддзя.

Ім ва ўсе часіны было і застаецца ўласцівым памкненнем вылучыцца са свайго асяроддзя менавіта такімі якасцямі. Паколькі галоўнай літаратурнай моваю ў Беларусі была польская або руская, наш інтэлігент, атрымаўшы адукацыю на адной з гэтых моў, у пэўных сітуацыях аддаваў перавагу польскай або рускай.

Тое ж і цяпер. Менавіта гэтай акалічнасцю тлумачыцца памяншэнне апошнім часам колькасці грамадзян беларускай нацыянальнасці, што прызналі беларускую мову роднаю. Сам па сабе гэты факт яшчэ не дае дастатковых падстаў разглядаць падобнае стаўленне да роднай мовы як адмоўнае, уласцівае толькі беларускай нацыі. Тым больш, што цяжка знайсці такую складаную і цяжкую гісторыю развіцця культуры, якая выпала на долю беларусаў.

А выйсце ёсць!

Сучасная беларуская мова, як нам здаецца, з'яўляецца дастаткова развітаю і не саступае па сваіх літаратурных магчымасцях мовам суседзяў, але, безумоўна, мае патрэбу надалей узбагачацца і ўдасканальвацца. Якія ж шляхі ўздыму прэстыжу беларускае мовы?

Прэстыж хутчэй за ўсё можа быць дасягнуты з дапамогаю аўтарытэтаў, да якіх варта аднесці кіраўніцтва дзяржавы, парламент, дзеячаў навукі, культуры, палітыкі, рэлігіі. У гэтай сувязі надзвычай важна, каб у першую чаргу кіраўнікі ўрада, духавенства і перадавая частка грамадства ў сваёй дзейнасці карысталася беларускай мовай. Неабходна, каб пабеларуску загаварыў увесь парламент і кіраўніцтва адміністрацыйных органаў ад міністэрстваў да сельскіх установ, а такое, пэўна, стане магчымым, калі беларуская мова зробіцца сапраўды дзяржаўнай.



Уздым прэстыжу беларускай мовы цесна пазнаны з адраджэннем культуры. Мы ніколі не адродзім сапраўдную беларускую культуру, а разам з ёю і ўнутраную патрэбу ў беларускай мове, калі будзем зыходзіць з яе бальшавіцкага, польска-шавіністычнага разумення, таму што ў такім успрыняцці яна аднабаковая, галоўным чынам шэра-ружовага колеру, але ж яна ў нас гістарычна мела і іншы бок — блакітны. Бальшавіцкая ідэалогія і польская шавіністычная прапаганда вымаралі з нашае гісторыі гэтую блакітную, высокага ўсходнееўрапейскага ўзроўню культуру.

Яна была і застаецца беларускай, таму што ўзрадзілася на беларускай зямлі і спалучае ў сабе беларускія традыцыі, звычаі, беларускі дух. Дзеля гэтага варта нагадаць пра творы А.Міцкевіча, М.Агінскага, С.Манюшкі, Э.Ажэшкі, М.Глінкі ды шмат каго яшчэ з вялікіх, што нарадзіліся і стварылі свае бессмяротныя радкі, вобразы, гукі на нашай Бацькаўшчыне. Да таго часу, пакуль мы не ўсвядомім неабходнасць і не зробім рашучыя крокі ў бок прызнання і ўсваення ўсяго таго, што было створана на нашай зямлі не толькі дэмакратычна настроенай

# ...ЎЙ РАДАВОД

інтэлігенцыяй, якая пісала свае творы на беларускай мове, але і нашай беларускай адукаванай арыстакратыяй, хай сабе паслугаванай іншымі мовамі (у сілу існуючай палітычнай кан'юнктуры), мы не зробім беларускую культуру прыцягальнай, цікавай для шырокай грамадскасці і асабліва — для гараджан.

Выхаванне нацыянальнай самасвядомасці магчымае толькі на глебе сапраўднай культуры, увасобленай у канкрэтныя формы пазнання, апасродкаваныя праз эстэтычнае ўспрыняцце. Неабходна далікатная і тонкая выхаваўчая праца, галоўным чынам праз мастацтва і царкву. У нас ёсць патрэба ў стварэнні мастацкіх твораў, асабліва гістарычнага зместу, з жыцця нашай знакамітай інтэлігенцыі, адукаванай арыстакратыі і духоўных пастыраў. Пра асабліва адораных прадстаўнікоў беларускай зямлі, якімі дагэтуль з прычыны гістарычнай недасведчанасці ганарымся не мы, а Польшча, Расія, Літва, залічыўшы іх у свой рэестр. І трэба рабіць гэта не марудзячы, трэба актыўна несці прасвету ў народ. Прапагандаваць сродкамі радыё, тэлебачання, кіно, прэсы і, што асабліва важна, праз манументальнае мастацтва — стварэннем фрэсак у інтэр'еры і на фасадах будынкаў, а таксама пастановаю помнікаў у выглядзе скульптурных і архітэктурных пабудоў, у тым ліку цэркваў у нацыянальным стылі, на самых прыгожых і людных плошчах, у скверах і парках, прыбраўшы або перанёсшы ў ціхія месцы навязаныя бальшавізмам чужыя для беларускай культуры і гісторыі помнікі. У большасці гэта маламастацкія прымітыўныя выявы, часам яны зусім не ўпісваюцца ў гарадскі пейзаж. Варта пакінуць толькі высокамастацкія цікавыя помнікі, зробленыя вядомымі майстрамі.

Неабходна, як нам здаецца, істотна змяніць назвы вуліц і плошчаў, што маюць на рэдкасць недарэчныя назовы, асабліва ў Менску. У творах манументальнага мастацтва (помніках, скульптурах, фрэсках) мусяць знайсці ўвасабленне імёны дзяржаўных і палітычных дзеячаў, а таксама духоўных асветнікаў да стварэння Вялікага княства Літоўскага і часоў гэтае дзяржавы, людзей, што пакінулі адметны след у беларускай гісторыі, напрыклад, з роду Сапегаў, Радзівілаў, Агінскіх, Пашкевічаў ды іншых.

Многія каралі Рэчы Паспалітай былі беларуска-літоўскага паходжання. Першыя з іх паслугоўваліся ў побыце і справаводстве беларускаю моваю, пра што сведчаць архіўныя звесткі. Іх добрыя справы мусяць таксама знайсці адлюстраванне.

Мы павінны зразумець, што ў пытаннях культуры між Беларуссю і Расіяй існуе прынцыповая розніца. Калі ў Расіі адбываюцца змены, і галоўным чынам не ў культуры, а ў палітычным і эканамічным жыцці, то ў нас у звязку з гэтым мусіць ісці сапраўднае адраджэнне культуры і духоўнасці, сваёй беларускамоўнай царквы у самым шырокім разуменні — пасля многіх гадоў яе забыцця і, калі хочаце, знішчэння. Таму адносіны да помнікаў у нас мусяць быць іншыя, арыентаваныя на радыкальнае іх аднаўленне.




Нас не павінна бянтэжыць тая акалічнасць, што многія нашы дзяржаўныя і культурныя дзеячы намаганнямі польскай і літоўскай гістарыяграфіі аднесены выключна да іхняе гісторыі —так, нібы нас і не існавала. Мы павінны цярпліва і настойліва тлумачыць насельніцтву пра сапраўднасць гістарычных падзей. У Рэчы Паспалітай, гэта азначае — у Польска-Беларуска-Літоўскім гаспадарстве, беларускі элемент у культурным і дзяржаўным жыцці меў вялікую вагу. Дзеячы беларускага паходжання займалі зусім не апошняе месца. У шэрагу выпадкаў былі папярэдзе. Не сумняваюся, што ў выніку наступных доследаў архіўнага матэрыялу побач з вядомымі імёнамі могуць высветліцца новыя, якія праславілі нашу Радзіму. Гэтыя думкі ў роўнай ступені стасуюцца і да рускага перыяду ў гісторыі Беларусі.



У сваёй прасветнай дзейнасці нам нявартa забывацца на беларускую эміграцыю, якая дагэтуль, нягледзячы на доўгія гады жыцця за мяжою, паслугоўваецца беларускаю мовaю, жыве не толькі жыццём сваёй новай радзімы, але і жыццём сваёй былой і гістарычнай радзімы. Сярод эміграцыі вельмі высокі працэнт інтэлігенцыі з вышэйшай адукацыяй. Ёсць вядомыя вучоныя, літаратары, дасягнулыя поспехаў бізнесмены. Як важна цяпер перагледзець наша стэрэатыпнае мысленне, прышчэпленае бальшавіцкай ідэалогіяй, адносна падзей, звязаных з другой сусветнай вайной. Мы павінны прыхільна стаць на бок тых, хто ў часе найскладаных абставін вайны праявіў беларускі патрыятызм, стаяў за адраджэнне нацыі, а ў выніку непрыняцця гэтае пазіцыі пануючымі таталітарнымі рэжымамі апынуўся ў эміграцыі — на баку заходняй дэмакратыі.

Яшчэ адна праблема, адклад якой не ідзе на лад — гэта праблема аднаўлення, рэстаўрацыі нешматлікіх ацалелых помнікаў архітэктуры, культавых пабудоў, месцаў, звязаных з пэўнымі гістарычнымі падзеямі. Як жа важна прыкласці максімум сіл не толькі праз укладанне сродкаў з дзяржаўнага бюджэту на гэтыя справы, але і праз асабістыя грашовыя ахвяраванні, праз бескарыслівы ўдзел энтузіястаў-патрыётаў у працах па аднаўленні помнікаў мінуўшчыны. Думаецца, было б мэтазгодна запрасіць эмігрантаў Захаду з радоў беларускіх магнатаў дзеля прыцягнення іх да непасрэднага ўдзелу ў аднаўленні сваіх былых сядзібаў і стварэння ў адбудаваных палацах і садах музеяў, паркаў адпачынку і інш. Разам з імі можна наладзіць супольныя культурныя мерапрыемствы, звязаныя з жыццём і творчасцю найбольш яркіх прадстаўнікоў іхняга роду. А найперш трэба заняцца вывучэннем іх жыцця і дзейнасці, пакінутай творчай спадчыны.



У сваёй дзейнасці, скіраванай на паскоранае адраджэнне беларускай культуры, нам нявартa баяцца, што нас абвінавацяць у нацыяналізме. Хто хоць трошкі знаёмы са станам беларускай нацыянальнай культуры, разумее, што яна дайшла да той рысы, калі трэба пасылаць сігнал «SOS». Нацыяналізму, у сэнсе нацызму, на Беларусі ніколі не было і не будзе, бо такая якасць увогуле не ўласцівая беларусам. Беларусы заўсёды вылучаліся сваёй талерантнасцю ў адносінах да іншых народаў. Хаця нацыяналізм — гэта не шавінізм. На Захадзе нацыяналізм разглядаецца абсалютна станоўча, як натуральнае памкненне нацыі да захавання сваёй культуры і гісторыі.

*Прачытана на міжнароднай навуковай канферэнцыі «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII —пачатку XX ст. Гродна, 28 верасня — 1 кастрычніка 1992 г.*

Пераказ па-беларуску
**Алены ТРУСАВАЙ.**

*На здымках:*

1. Каложская (Барыса-Глебская) царква XII стагоддзя. Руіны XIX ст. Малюнак Напалеона Орды.
2. Медная дэкаратыўная пласціна з інтэр'ера Ніжняй царквы ў Гродне XII стагоддзя. Раскопкі Алега Трусава.
3. Беларускі магнат Мікалай Радзівіл.
4. Палац у Ружанах (Брэсцкая вобл.). Малюнак Напалеона Орды.
5. Беларуская марка, беларускі канверт — не толькі культурная з'ява, але і сімвалы незалежнасці дзяржавы.
6. Бібліятэка Храптовіча ў Шчорсах.




Валянцін ТАРАС

# ЁСЦЬ ПЫТАННІ

Змешчаны ў апошнім вераснёўскім нумары «Культуры» артыкул доктара філасофіі Мікалая Крукоўскага «Рынак, культура, дзяржава, альбо Нашто нам патрэбен рэферэндум» не радавая з'ява ў нашай перыёдыцы. Гэта, на маю думку, таксама як і надрукаваная 25-га верасня ў «ЛіМе» гутарка з тым жа аўтарам, пададзеная пад назвай «Мы бяромся з ідэі сябе, і мы мусім як след выказаць беларускую ідэю» — значная падзея ў свеце грамадскіх ідэй, якія сёння нараджаюцца на Беларусі. Упэўнены, што не пераацэньваю. Ва ўсякім разе, не магу прыпомніць, каб апошнім часам хто небудзь яшчэ падышоў бы да праблем беларускага нацыянальнага Адраджэння, да праблем пабудовы незалежнай беларускай дзяржавы з такой шырокай меркай, паспрабаваўшы паставіць усю гэту праблематыку на трывалы навуковы падмурак, асэнсаваць яе з пункту гледжання філасофіі, арганічна ўвесці ў агульнаеўрапейскі кантэкст, у кантэкст усяго людства. У гэтым галоўная вартасць артыкула, чытаць які — інтэлектуальная асалода, прычым асалода не толькі для тых, хто больш-менш дасведчаны ў філасофіі, у гісторыі грамадскай думкі, наогул у гісторыі, але і для самага звычайнага чытача, бо пры ўсёй сваёй глыбіні, насычанасці складанымі філасофскімі пастулатамі, гістарычнымі паралелямі, асацыяцыямі ён даступны кожнаму, дзякуючы раскаванасці, ненатужлівасці мыслення, у якім няма і ценю элітарнай пыхі.

Асабіста я, чытаючы гэты артыкул, акрамя інтэлектуальнай асалоды, адчуў яшчэ і радасць ад супадзення думак, радасць згоды, знайшоўшы ў меркаваннях і доказах Мікалая Крукоўскага пацвярджэнне ўласным перакананням амаль па большасці закранутых у артыкуле праблем. Не магу, напрыклад, не паўтарыць следам за М.Крукоўскім, што ў той час, калі «перад намі ва ўсёй сваёй грознай няўхільнасці паўстала задача ратавання нашай роднай беларускай краіны», становіцца «балюча і сорамна глядзець, як вырашаюць гэтую задачу нашы сённяшнія дзяржаўнікі, асабліва ва ўрадзе і ў Вярхоўным Савеце. Адны заклікаюць спярша накарміць народ, быццам гэта якое бядла, што калі пан чыноўнік не пакорміць яго, так і будзе вішчэць у хляве. Другія, нядрэнныя зрэшты людзі, наіўна вераць, што як толькі ўсе загаворым на беларускай мове,ўсё стане добра само сабой. Трэція, аслепленыя папяровымі суверэнітэтам і бел-чырвона-белым штандарам на Доме ўрада, спачылі, што называецца, на лаўрах і не жадаюць бачыць рэальнага стану рэчаў...» Горкія, але справядлівыя словы, толькі хацелася б заўважыць, што, на маю думку, «другія» і «трэція» тут адно і тое ж, дакладней, адны і тыя ж, таксама як «першыя» і «чацвёртыя», аб якіх гаворыць далей М.Крукоўскі, маючы на ўвазе камуністычную наменклатуру ў беларускім парламенце, — якраз гэтая наменклатура і крычыць, што «трэба спачатку накарміць народ». Не буду, аднак, спыняцца на гэтых удакладненнях, больш важна спыніцца на мове, якую «нядрэнныя зрэшты людзі» лічаць панацэяй ад усяго таго зла, што апанавала Беларусь. Тут я дазволю сабе дапоўніць думку М.Крукоўскага і адначасова не пагадзіцца з ім, бо не думаю, што гэта наіўнасць «нядрэнных людзей» абсалютна бяскрыўдная. Яна, можа, і наіўная, але мне здаецца, што сённяшняе фарсіраванне справы беларусізацыі можа прынесці ёй вялікую шкоду. Яшчэ два гады назад мне давялося гаварыць аб гэтым на старонках «ЛіМа», але паколькі ўсё застаецца па-ранейшаму, дык не грэх і паўтарыцца.

У 1990 годзе, у адным з кастрычніцкіх нумароў «ЛіМа», кандыдат тэхнічных навук П.Біч у сваім артыкульчыку напісаў літаральна наступнае:"Пераважную большасць перыядычнага друку ў Беларусі з наступнага года зрабіць беларускамоўным. Пратэсты чытачоў, якія быццам не могуць чытаць па-беларуску, кваліфікаваць як правакацыю, паколькі для авалодвання чытаннем друку на беларускай мове дастаткова некалькі тыдняў". Так, так! Некалькі тыдняў! Прачытаўшы гэты пасаж, я прыгадаў тады адзін эпізод, які меў месца ў рэдакцыі маскоўскага часопіса «Юность», даўным даўно, яшчэ ў сямідзесятыя гады. Я зайшоў у часопіс па сваіх справах, але гутарка зайшла і пра нашы грамадскія беларускія справы, пра цяжкае становішча беларускай мовы, наконт чаго маладая рэдактарка заўважыла: «Извините, но я вас не понимаю. Ведь белорусский язык почти не отличается от русского! Стоит ли за него цепляться ради нескольких специфических слов и латинского "и"?!" Сказана было з апломбам, але я не стаў спрачацца, а проста адказаў ёй па-беларуску: «Вы памыляецеся, і зараз я вас у гэтым пераканаю. Калі ласка, адхініце фіранку, бо ў памяшканні дужа змрочна, шыбкі маленькія, а столь нібы ў лёху». Рэдактарка спярша вылупіла на мяне вочы: «Вы меня разыгрываете! Это не белорусский язык!» Потым пачырванела і прызналася, што зразумела толькі «калі ласка», — «Это "милости просим", да?» Давялося растлумачыць, што гэта яшчэ і «пожалуйста», і «будьте добры», і «будьте любезны», што «фіранка» — гэта «занавеска», «памяшканне» — «помещение», «столь» — «потолок», а «лёх» — «подземелье», што «памыляцца» пабеларуску значыць «ошибаться», што такіх «специфических слов» у беларускай мове дзесяткі тысяч.

Гэты эпізод я і прывёў тады ў сваім адказе П.Бічу, паўтарыўшы, між іншым, вядомае выказванне: «Барані нас Божа ад сяброў, а з ворагамі мы і самі справімся!» Даводзіцца паўтараць яго і сёння, бо ўсе гэтыя «зрэшты нядрэнныя» наіўныя людзі, накшталт П.Біча, ніяк не могуць зразумець, што, як гэта ні парадаксальна, яны ўпадабаюцца той маскоўскай рэдактарцы, якая думала, што беларуская мова амаль нічым не адрозніваецца ад рускай. А калі гэта не так, дык як можна — на цвярозы розум —разлічваць на тое, што літаральна заўтра ўся трагічна русіфікаваная Беларусь можа загаварыць на беларускай мове, як можна забывацца на тое, што не толькі рускія мігранты, якія жывуць на Беларусі, але і мільёны беларусаў, асабліва ў гарадах, абсалютна не ведаюць мовы свайго народа, ва ўсякім разе, глыбіннай, жывой, натуральнай, той мовы, на якой размаўлялі іх вясковыя дзяды і бабулі? Вяртанне да гэтай мовы, авалоданне ёю — справа няпростая і вельмі працаёмкая, як бы гэта ні засмучала нас і ні псавала нам нервы. Ніхто не авалодвае мовай за некалькі тыдняў, а большасць і за паўгода ці нават за год, бо мова беларуская, дзякаваць Богу, усё ж адрозніваецца



ад мовы якога-небудзь племені «мумба-юмба» з запасам лексікі ў паўсотню слоў, і ад рускай адрозніваецца не толькі наяўнасцю лацінскай «і» і «ў» скарочанага. І, відаць, толькі тады, калі народ у асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў, людзей, якія мысляць нацыянальна і дэмакратычна, заваюе палітычную, а галоўнае, эканамічную ўладу, зрушыцца з месца і справа беларусізацыі, пачнецца паступовае, цярплівае, але сапраўды няўхільнае вяртанне да родных крыніц.

На жаль, на гэтым шляху адраджэння, нават і пасля заваявання палітычнай і эканамічнай улады, нас падпільноўваюць многія небяспекі, тояцца «міны». Адна з такіх «мін» прыхавана, як мне здаецца, у адным з пасылаў, мімаходзь прыведзеным Мікалаем Крукоўскім у яго артыкуле. Вось адносна гэтага пасылу ў мяне, як той казаў, ёсць пытанні да аўтара.

Знаёмячы чытача з поглядамі нямецкага эканаміста Фрыдрыха Ліста, з яго канцэпцыяй «эканамічнай культуры», М.Крукоўскі прыводзіць многія «пазітыўныя палажэнні» нямецкага вучонага, «што таксама маглі б быць карыснымі для нас. Гэта і смелае разуменне культуры як увасаблення цэласнасці і адзінства нацыі, і разуменне эканомікі як толькі часткі культуры, а не славуты астатковы прынцып, як у нас... Гэта і вельмі сучаснае разуменне ролі дзяржавы ў гаспадарчым жыцці...» І тут я абрываю цытату. І гэтак жа, як пры першым прачытанні артыкула, вяртаюся да фразы пра «цэласнасць і адзінства нацыі». Якая цэласнасць маецца на ўвазе? Як яе разумець? Як аднароднасць? Як нешта этнічна абсалютна чыстае? Пытанні не малаважныя, бо ў Беларусі жывуць не адны беларусы, ёсць і мільён з гакам рускіх, і сотні тысяч палякаў, і некалькі сот тысяч украінцаў, і татары ёсць, і яўрэі, прычым сярод рускіх і палякаў велізарная колькасць такіх людзей, якія жывуць тут спакон веку, тут магілы іх дзядоў і прадзедаў, таксама як і ў яўрэяў і татар. І хіба не з'яўляюцца ўсе яны неад'емнай часткай народа Беларусі? Хіба іх культура не адзін з дыяментаў у кароне культуры агульнабеларускай? Ці зноў будзем даказваць, што, скажам, той жа Марк Шагал калі не яўрэйскі, дык французскі мастак, што яго творчасць нам чужая, не наская? Што магіляўчанін Ігар Шклярэўскі, захаваны ў родную Беларусь кожнай джылачкай сваёй істоты, паэт, які апеў яе ў сотнях выдатных пяткіх вершаў і паэм, не наш толькі таму, што напісаў гэтыя вершы па-руску? Ды ў яго творчасці больш нацыянальнага, чым у некаторых беларускамоўных графаманаў. Бо светаадчуванне яго — беларускае, характар — беларускі, народжаны беларускай прыродай, беларускімі лясамі, рэчкамі і рачулкамі, азёрамі і сажалкамі, якія ён усе зведаў, як той казаў, і ўздоўж і ўпоперак, беларускімі вёскамі, іх пастухамі і жнеямі, мудрымі вясковымі дзядамі і бабулямі, народнымі паданнямі і песнямі, — дастаткова толькі ўзяць у рукі яго вершы, каб пераканацца ў гэтым. Ды і па нацыянальнасці ён беларус, хоць на гэта, відаць, мне скажуць зацятыя нацыянал-радыкалы: «Які ён беларус? Здраднік ён, а не беларус!»

«Здраднік», між іншым, ахвяраваў прысуджаную яму урадам Расіі Дзяржаўную прэмію выратаванню лесу ў чарнобыльскай зоне Беларусі.

Дык што ж разумець пад «цэласнасцю і адзінствам нацыі?» Няўжо тую цэласнасць, тое адзінства, якое мы бачым сёння ў Азербайджане і Арменіі, у Грузіі і Чачні? Барані Бог ад такой «цэласнасці» і такога «адзінства»! Бо калі мы не будзем дамагацца цэласнасці і адзінства народа Рэспублікі Беларусь, дык падарвемся на міне грамадзянскай вайны, на міне нацыянальнага размежавання. А той-сёй ужо заклікае да такога размежавання, выказвае жаль з прычыны таго, што рускія на Беларусі не жывуць кампактна, а рассеяны скрозь, і таму дужа цяжка будзе нейтралізаваць кожнага «імперца» паасобку, — быў наконт гэтага артыкул у «ЛіМе», артыкул, ад якога патыхнула сумам па рускаму «гета»...

Такія вось думкі, такія пытанні выклікала ў мяне кінутая мімаходзь фраза Мікалая Ігнатавіча Крукоўскага аб цэласнасці і адзінстве нацыі. Ці, можа, я нешта не так зразумеў?

Ёсць пытанні і наконт роздуму Мікалая Крукоўскага аб задачы стварэння беларускай нацыянальнай філасофіі, якім ён падзяліўся з чытачамі ў прыгаданай вышэй гутарцы «Мы бяромся з ідэі сябе...» Ён кажа, што, ствараючы такую філасофію, трэба адкінуць усё чужое, запазычанае, усё тое, што ішло да нас з Захаду і з Расіі, што — так можна зразумець — патрэбна «табула раса», на якой будзе напісана чыста беларускае філасофскае вучэнне. Але ж у сваіх разважаннях, у сваім глыбокім роздуме Мікалай Крукоўскі абапіраецца на ўсё багацце сусветнай філасофіі, свабодна, натуральна аперыруе і Гегелем, і Дэмакрытам, і Эмпедоклам, і Марксам, і Ласалем, і Шпенглерам, усім тым багаццем сусветнай філасофскай думкі, якую ён зразумеў, засвоіў, якая з'яўляецца часткай яго ўласнага філасофскага мыслення! Дык ці няма тут супярэчнасці? Ці можа нарадзіцца беларуская нацыянальная філасофія без дапамогі, так бы мовіць, «прыёмных бацькоў»? Таксама, як нямецкая класічная філасофія нарадзілася з французскай, з энцыклапедыстаў, а тыя ў сваю чаргу хіба з неба ўзяліся? І ці не можа здарыцца так, што «чыста нацыянальная філасофія», філасофія этнічнай чысціні акажацца адным з «Міфаў XX стагоддзя»? Як тут быць з гегелеўскім азначэннем дзяржавы як рэальнасці маральнай ідэі? А ў тым, што «нам зараз вельмі патрэбная такая дзяржава», што «сапраўды народнай, маральнай дзяржава можа быць адно тады, калі яна карыстаецца поўным даверам народу, г. зн. калі яна абраная народам...», што дабіцца такой дзяржавы і зажыць, нарэшце, па-чалавечы мы зможам, толькі выйшаўшы на рэферэндум і аднадушна прагаласаваўшы за выбары новага, сапраўды народнага беларускага Вярхоўнага Савета і за сапраўды народны беларускі ўрад", —я цалкам згодны з нашым выдатным філосафам.

Валянцін АКУДОВІЧ

# КАНТЭКСТ





Традыцыйны вобраз беларуса — «пан сахі і касы». Такім ён бачыцца і ў будучыні, хіба што з невялікай папраўкай на тэхналагічную і камп'ютэрную рэвалюцыі. Аднак тут трэба зважаць, што гэты, дамінуючы ў нашым мысленні міф фармаваўся не столькі «боскай» воляй, колькі палітычнымі турботамі нашых суседзяў, якім мы жадаліся адно як цяглавае быдла. Адсюль — беларус працавіты, цягавіты, але неразвіты духоўна і са сціплымі разумовымі здольнасцямі.

Што міф не адпавядае экзістэнцыі беларусаў, яскрава сведчаць біяграфіі тых нашых продкаў і сучаснікаў, якія самахоць ці прыхамаццю лёсу апынуліся ў атачэнні іншых культур і занялі там годнае месца. Больш за тое. Неаднойчы здаралася, што беларусы вызначалі інтэлектуальную дамінанту духоўнага жыцця тых народаў, якім самаахвярна паслугавалі. Каб апярэдзіць папрокі ў залішняй амбіцыйнасці, згадаем хаця б Сімяона Полацкага ці Ігната Дамейку...

Некалі мы складзем біяграфічны слоўнік нашых суайчыннікаў, якія плённа працавалі на карысць дабрыні і прыгажосці ў розных кутках свету, і тады стане бачным і нам самім і замежнікам, што мы не жабракі ля брамы ў храм сусветнай культуры, а дойліды гэтага храма.

Зыходзячы з папярэдняга, магчыма, не будзе вялікай авантурай лічыць, што будучыня нашай бацькаўшчыны, яе росквіт — не ў мазольных высілках на полі і фабрыцы, а ў напружанай разумовай працы (апошняе, натуральна, не адпрэчвае і поле і фабрыку). Мне здаецца, прадчуваецца, што інтэлект нацыі, які стоена дранцвеў апошнія стагоддзі, ціхамірнасцю і абыякавасцю ратуючы чалавека і яго род ад татальнага зніштажэння, даволі адпачыў за гэты час і цяпер здольны на многае. Застаецца адно пажадаць, каб увесь патэнцыял магчымасцей канцэнтравана выявіўся ва ўлонні сваёй культуры, а не разбэрсваўся, як было раней, па свету.

Аднак аптымістычная футуралогія не павінна замінаць нашаму веданню цяперашняй рэальнасці. Мы на доўгі час былі выпхнутымі з інтэлектуальнага кантэксту Еўропы і, шырэй — свету на здзічэлую ўзбочыну, і цяпер, калі надарыўся выпадак далучыцца да агульнага быцця ўсёй сваёй цялеснасцю і духоўнасцю, мы не ведаем, як гэта зрабіць, бо не надта ўяўляем сэнс тых каштоўнасцей, на якіх трымаецца і будуе свой лад тое быццё.

Рубрыка «Эліта» якраз і была створана дзеля таго, каб спрыяць нашаму паразуменню з усім светам праз тэксты найбольш адораных мысляроў, літаратараў, мастакоў...

Той, хто збольшага рэгулярна праглядаў шостую старонку нашай газеты, напэўна, заўважыў, што «Эліта» не прытрымлівалася нейкага аднаго ідэйнага ці хаця б эстэтычнага накірунку. І, магчыма, нават папракаў нас за разбэрсанасць, за тое, што тут суседнічалі «мадэрністы» з «рэалістамі», «камуністы» з «фашыстамі» і г.д. Але «звышзадача» рубрыкі бачылася не ў тым, каб прапагандаваць нейкую адну філасофскую ці эстэтычную плынь; найперш нам жадалася прадэманстраваць узровень і абсягі сучаснага мыслення. А на якіх прыкладах — гэта ўжо мела другаснае значэнне.

Мы ў сваім вытлумачэнні рэчаіснасці пакуль яшчэ пераважна ўжываем пабытовыя ці, у лепшым выпадку, паэтычныя катэгорыі. Не адпрэчваючы гэтых спосабаў « вымаўлення» быцця, нам неабходна наноў засвоіць мову метафізікі, якая была натуральнай нашым «кніжнікам» у залатую пару". Прымамсі, калі дбаем вярнуцца да сваёй «гістарычнай бацькаўшчыны». Бо Еўропа — гэта не геаграфія, Еўропа — гэта культура, заснаваная на інтэлектуальным мысленні...

Культура народа выяўляецца ў кожным фрагменце ягонага існавання, але толькі тады яна набывае зыходную завершанасць, калі здолее асэнсаваць сама сябе. Аднак апошняе немагчыма без развітай філасофіі і культуралогіі, якія аднача́сна і з'яўляюцца яе найвышэйшай адзнакай.

Стварыць нацыянальную культурасофію — актуальнейшая задача нацыянальнай культуры. Наша газета ў меру сваіх магчымасцей гатова паспрыяць гэтай справе. У дадатак да «Эліты» мы прапануем рубрыку «Суплёт ідэй», якая нам бачыцца палігонам, дзе будуць выпрабоўвацца ідэі і канцэпцыі нацыянальнага светапогляду.

## ГАЛЕРЭЯ



Мастацтва Язэпа Драздовіча, дакладнасць ягонага пісьма не толькі з'ядналі поўнач і поўдзень Беларусі — Дзісеншчыну і Піншчыну, — але знайшлі таксама шчаслівую раўналежнасць паміж палескімі і марсіянскімі краявідамі.

Для беларускай культуры пісьмо Язэпа Драздовіча — з'ява унікальная. Без перабольшвання — яно ўжо само па сабе ўтварае феномен «нацыянальнага вобраза свету».

Палітра мастака някідкая, стылістыка напружаная. Густа пакладзеныя на палатно фарбы ўтвараюць «пераднавальнічны», змрочны каларыт. Постаці людзей, дрэвы падпарадкаваны поўнай статыцы. Хаты, хлявы, гумны быццам выраслі з зямлі, быццам маюць карэнне, якое глыбока схавана ў глебе. Статычная нават і пафасная «Пагоня Ярылы». Адсюль такое ўражанне: малады Скарына, які развітваецца з Полацкам, здаецца, ніколі не скранецца з месца, як і Скарына ўзмужнелы, што ўжо «з навукай» вяртаецца дахаты, — ніколі не дойдзе да родных муроў.

У касмічных палотнах, якія таксама статычныя, нават скульптурныя, і напісаныя гэткім жа густым суцэльным мазком, з'яўляюцца, хаця й з аглядкай на «змрок», светлыя «паслянавальнічныя» фарбы.

Трэба думаць, што статыка для Язэпа Драздовіча не проста стылістычны прыём, а перш за ўсё прыкмета светапогляду. Ёю нібыта ўмацоўваецца, эстэтычна ўзвышаецца, асабліва ў творах нацыянальнай тэмы, ідэя пэўнасці і вечнасці ўсяго беларускага.

Агульнае ў мастака дамінуе над прыватным. Прадмет даецца толькі ў сваіх вызначальных рысах. Ён не прапісваецца, не дэталізуецца. Дэталі амаль не цікавяць Язэпа Драздовіча. Большую ўвагу мастак аддае сілуэту, выяўленаму мяккай, расплывістай лініяй. Таму, напрыклад, вежы, мураваныя з чырвонай цэглы, выглядаюць на яго карціне як нешта маналітнае, як дзве суцэльныя скалы. Усё роўна як не людзі іх узводзілі, а сама прырода.

Гэтак жа абагульнена-сілуэтна даецца і постаць Скарыны на палатне «Са свету з навукай». Адзенне першадрукара, ягоны абутак, сама прырода навокал — пазбаўлены дэталізацыі.

Часам Язэп Драздовіч карыстаецца прыёмам карыкатуры. Так, напрыклад, у карціне «Праводзіны непажаданага князя ў Полацку» карыкатурна выглядае конь і постаць гараджаніна з мятлой. Таксама карыкатурная постаць пана ў сімвалічнай кампазіцыі «Мужык з панам цягаюцца», і такія ж, карыкатурныя — юрлівыя мужчынскія абліччы на палатне «Танцоўшчыца». А на карціне «Спатканне вясны на Сатурне» бачым відавочна-камічных чалавечкаў-сатурнянаў. Увогуле касмічныя палотны мастака насычаны гратэскам і нейкай своеасаблівай цацачнай скульптурнасцю...

Паводле Язэпа Драздовіча, «нацыянальны вобраз свету» — не стылістычны вынік, а стылістычны працэс, узгадаваны пафасам падзвіжніцтва.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК.

МІХАІЛ ФІНБЕРГ:

# «РАБЛЮ АД ЧЫСТАГА СЭРЦА»

Дзяржаўны канцэртны эстрадны аркестр Рэспублікі Беларусь збіраўся на гастролі ў Італію. Ва ўтульнай штаб-кватэры музыкантаў, што месціцца ў самым цэнтры сталіцы — раёне плошчы Перамогі, усе былі занятыя зборамі. І тым не менш, кіраўнік аркестра Міхаіл Фінберг вылучыў час, каб сустрэцца з карэспандэнтам «Культуры» і адказаць на яго пытанні.

*—Два месяцы Вы правядзеце ў Мілане, будзеце працаваць на тэлебачанні, суправаджаць шоу-праграмы. Што чакае калектыў і яго прыхільнікаў пасля вяртання з замежных гастроляў?*

—Асноўную нашу задачу мы бачым у тым, каб перадаць культурную эстафету, тое, што назапашана сёння, далей, у новы час. Нядаўна мы скончылі запіс, на мой погляд, вельмі таленавітага, твора «Максім Багдановіч», які напісаў кампазітар Ігар Палівода. Гэта поп-опера. Яе будзе здымаць беларускае тэлебачанне. Палівода напісаў таксама яшчэ адну оперу на словы Янкі Купалы, прычым, на тэксты, якія раней не публікаваліся. Завецца твор, як і верш песняра,— «Беларушчына». Лібрэта стварыў таленавіты беларускі паэт-песеннік Лявон Пранчак. З'явіцца яшчэ адна новая праграма. Яе ўмоўная назва — «Музыка маёй рэспублікі». І прысвячаецца яна культуры народаў, што жывуць разам з беларусамі на іх старажытнай зямлі.

*—Якія Вашы далейшыя планы?*

—У лютым адбудзецца міжнародны фестываль джазавай музыкі, на які запрошаны многія вядомыя музычныя калектывы з блізкага і далёкага замежжа. Пойдзе падрыхтоўка сольных праграм вядучых салістаў і інструменталістаў аркестра.

Пасля новага года пачнем рыхтавацца да першага фестывалю беларускай эстраднай песні, які пройдзе летам 1993 года ў Маладзечне. Гарадскія ўлады праявілі вялікую зацікаўленасць да гэтага музычнага свята. У Маладзечне пачалося ўжо будаўніцтва канцэртнай пляцоўкі.

*—Вядома, што ў Вашым калектыве распрацавана і паспяхова ажыццяўляецца праграма беларусізацыі.*

—Два гады калектыў вядзе ўсё справаводства толькі на беларускай мове. Па-другое, рэгулярна вядуцца заняткі з групай вакалістаў. З імі сур'ёзна і паспяхова працуе Лявон Пранчак.

Самае цікавае, мяне пачынае сёйтой крытыкаваць за ўкараненне ў аркестры беларускай мовы. Маўляў, навошта мне гэта трэба.

Паверце, я гэта раблю ад чыстага сэрца. Лічу, так павінна быць у суверэннай дзяржаве. Сапраўды, беларуская мова неяк згубілася, не надаецца ёй належнай увагі. Паглядзіце, ва ўсіх краінах былога СССР размаўляюць на сваёй мове, яна з'яўляецца паўсюды дзяржаўнай: у Расеі — расейская, Украіне —украінская, Літве — літоўская, Латвіі — латышская і гэтак далей. Павінны і мы сур'ёзна і адказна ставіцца да ўласнай, беларускай, імем якой называецца наша рэспубліка.

Спачатку беларусізацыя цяжкавата ішла, натыкалася на неразуменне. Але зараз усе прызвычаіліся і лічаць, што па-іншаму ўжо і быць не можа. Як паказала жыццё, мы пайшлі правільным шляхам. Рэпертуар, які ідзе на беларускай мове, заўсёды цудоўна ўспрымаецца гледачамі.

*—А Вы самі валодаеце беларускай мовай?*

—Ведаеце, падчас вучобы ў школе я вывучаў беларускую мову. Таму праблем у гэтай справе асобых не ўзнікае. І тым не менш, імкнуся, як кажуць, падтрымліваць тут добрую форму, больш чытаць і размаўляць па-беларуску. Наведваю заняткі, якія вядзе Лявон Пранчак, займаюся самастойна. Поспехі назіраюцца. Але калі набыў нядаўна крыўскі слоўнік, зразумеў: беларускай мовы добра я ўсёткі не ведаю. Заўсёды кажу і музыкантам, і сабе: калі лічыш, што робіш ці зрабіў нешта добра, значыць, ты скончыўся як выканаўца. Гэтак і ў любой справе, у тым ліку, і ў авалоданні мовай: мяркуеш, што штосьці ведаеш, значыць, па-сапраўднаму нічога не ведаеш.

Нельга ніколі спыняцца на дасягнутым, трэба заўсёды ісці далей. Праца над сабою, самаўдасканаленнем — няспынная.

*—Ці з'явіліся ў Вашым аркестры новыя выканаўцы?*

—Так. Да нас прыйшоў цікавы, прыкметны выканаўца, які заняў чацвертае месца на міжнародным фэсце ў Сопаце,— Андрэй Хлястоў. Супрацоўнічае з намі саліст «Песняроў» Валеры Дайнека. Некаторыя газеты паспяшаліся паведаміць аб пераходзе Дайнекі ў Дзяржаўны канцэртны эстрадны аркестр. Але ж аб гэтым, мне здаецца, можна гаварыць тады, калі заява аб прыняцці кагосьці на працу падпісаная кіраўніком той ці іншай установы.

*—Ваш аркестр вядомы не толькі на Беларусі, але і за яе межамі. На Віцебскім фэсце «Славянскі базар» выканаўцы і музыканты ў адзін голас казалі, што лічаць калектыў лепшым у СНД. Ведаюць вас у Польшчы, іншых краінах Еўропы, папулярныя вы ў Італіі.*

—Раней, напачатку нашай музычнай дзейнасці, выезд за мяжу, сапраўды, быў для нас падзеяй. Цяпер гэта ўжо з'ява звычайная, працоўныя будні. За мяжой — праца нялёгкая. З нас імкнуцца ўзяць як мага больш, і, можа, не заўсёды належным чынам аплаціць зробленае.

Не адкрыю Амерыкі, калі заўважу: за мяжой мала такіх цудоўных музыкантаў, якіх маем мы. Толькі яны, на жаль, пазбаўлены той выдатнай рэкламы, што існуе на Захадзе.

Зараз для мяне і маіх калег значна важней, як нас прымаюць не за мяжой, а на радзіме, скажам, у Гомелі або Баранавічах. Дарэчы, наш глядач даволі складаны. За мяжой публіку заваяваць значна прасцей, яна не звяртае асаблівай увагі на промахі. Павага нашага гледача,паверце, самая дарагая.

Наталля КІРПІЧЭНКАВА.

# МАЯ НАСТАЛЬГІЯ

Уладзімір КЛІМОВІЧ



«Ніколі не бывае так кепска, каб не магло быць горай» —вядомая выснова Юліяна Тувіма. У цяжкія хвіліны я падсвядома імкнуся своечасова ўспомніць пра яе, каб была магчымасць хоць на што абаперціся, калі пачынаеш губляць пад нагамі глебу. Увогуле, ад маці мне перадалася сентыментальнасць. У маці набягалі на вочы слёзы, нават калі яна слухала па радыё абвестку пра які-небудзь землятрус ці самалёт, што знік у акіяне, так і не даляцеўшы да аэрадрома. Мяне заўсёды здзіўляла і цікавіла, як яна магла пранікнуцца вельмі чужой і вельмі далёкай бядой. Магчыма, у такія хвіліны ўяўляла сябе ў разбураным горадзе ці ў салоне аварыйнага авіялайнера. Не ведаю. Я ніколі не адважыўся запытацца, каб даведацца праўду, я загадзя саромеўся за сваё ідыёцкае пытанне, як бы лаканічна ні было яно сфармулявана, бо што можа быць больш чыстым, сапраўдным і кранаючым, як не мацярынскія слёзы.

У дзяцінстве, якое сёння падаецца такім далёкім, я вельмі любіў сваю бабулю. Па вечарах мы ішлі праз усю вёску ад маіх бацькоў начаваць да яе хаты. Дзіўна, але мне чамусьці больш за ўсё запомніліся такія пераходы па сцішанай вясковай вуліцы. Калі было добрае надвор'е, на небе ўспыхвалі зоркі. Іх шматлікае ззянне зачароўвала мой погляд і, трымаючыся за бабуліну руку, я шнураваў да самага падворку з паднятай галавой. Мне было ўсяго тры гады, калі я прызнаўся бабулі, што як выpасту — стану лётчыкам, уздымуся на верталёце да неба і назбіраю ёй цэлы кошык зорак, каб пасля бабуля паклала іх за вокны. Я хацеў, каб па начах уся хатка свяцілася дзівосным агнём. Я не ведаю, чаму ў мяне тады з'явілася жаданне збіраць зоркі. Магчыма, з-за таго, што ў нашай вёсцы вельмі часта прападала святло, і людзі па вечарах сядзелі пры лямпах. Магчыма... Так склаўся лёс, што я сапраўды быў два гады пры самалётах — стралок-радыст ваеннай авіяцыі — і некалькі разоў лятаў у неба. Але бабуля не ўбачыла абяцаных зорак — нават на бліскучых гузіках майго вайсковага шыняля. Яна памерла за паўтара месяца да майго звальнення са службы. Тэлеграма з дому ўзрушыла мяне, але не гэтак, як павінна ўзрушыць вестка пра смерць блізкага чалавека. Мы вельмі доўга не бачыліся і, напэўна, паспелі адысці адзін ад аднаго.

Але я вельмі часта згадваю бабулю. Яшчэ і сёння ўспамінаю, як яна расказвала мне пра пажар, калі згарэў бацькоўскі дом. Яна не шкадавала дзявочага прыданага ў дубовым куфры і бацькоўскай сядзібы, яна гаравала па кнізе, што згарэла ў полымі. Гэтай кнігай была «Біблія». Я пытаюся ў сябе, ці змог бы хто раскласці гэтак тыя ж рэчы па шкале жыццёвай неабходнасці цяпер, і мне чамусьці робіцца вельмі пуста на душы. Чым адрознівалася тое пакаленне ад сённяшніх? Тым, што яго выхоўвалі людзі, яшчэ не ачмураныя рознымі ідэямі ды ідэалогіямі? Напэўна, замест гэтага яны неслі сваім дзецям духоўную мудрасць, духоўную культуру. Дзед Юсцік, што жыў з намі па-суседству, амаль кожны дзень расказваў мне новую казку: і пра скарбы, і пра лесавікоў, і пра дзівакоў розных... А сёння вясковыя мужчыны падаюць майму малодшаму брату то недапалак папяросы, то бутэльку з рэшткамі гарэлкі ці віна... Яны не ведаюць казак, яны не памятаюць, што гэта такое. Мае аднагодкі могуць падвучыць брата штосьці ўкрасці альбо пабіцца са сваімі сябрамі, пакуль у каторага не пацячэ з носа чырвоная юшка — дурныя інтэрнацыянальныя звычкі і не больш. І бяжыць мой брат пасля такога «выхавання» з аравай такіх жа шпанюкоў на поплаў, каб злавіць галуба і жывому адкруціць галаву. Я баюся, што гэта ўжо не звычайная дзіцячая цікаўнасць, я баюся што гэта — прага крыві. Што ж, усё развіваецца па нарастаючай. І я жахаюся, што магло б здарыцца, каб праз семдзесят год «саўдэпаўскага» жыцця не адбыліся пэўныя змены. Якія б у гэтых дзяцей выраслі дзеці?

На Камароўскім рынку сядзіць у бліскучай калясцы бязногі інвалід і на заказ выконвае песні. Перад ім ляжыць на брудным асфальце расчынены футарал, у які людзі кідаюць грошы. Інвалід амаль увесь час іграе «Таганку», а побач з ім панура стаяць падазроныя асобы з тлустымі наколкамі на руках. Я пытаюся ў сябе: «Гэта — наша духоўнасць?». І знаходжу сілы і доказы, каб супярэчыць самому сабе: не, гэта «духоўнасць» пэўнага і даволі нешматлікага асяроддзя людзей. Я праходжу далей і каля самага выхаду з рынку натыкаюся на вялікі натоўп. Тут таксама іграе баяніст, але ён не калека, стаяць і слухаць яго не так мулка, як калеку, таму разнашэрснага люду сабралася вельмі шмат. Баяніст набліжае да мікрафона фальшыва-пакутны твар з цёмнымі акулярамі замест вачэй і ці то прастуджана, ці то пракурана сіпіць:

—Тихойосеннейпорой...падаялистьяшуршали...

Жамчужына расейскага кічавага мастацтва. Я пытаюся ў сябе: «Гэта — наша культура?». І не знаходжу ні сілы, ні доказаў, каб супярэчыць. Я абводжу позіркам людзей, якія слухаюць музыку. Я не ўпэўнены, што яны стаялі б і слухалі Забэйду-Суміцкага ці спыніліся б каля палотнішча Драздовіча. Гэта культура майго народа... Была? Ці ёсць?.. Я іду хутчэй прэч, саджуся ў перапоўнены трамвай. «Тихойосеннейпорой...» — аддаецца ў маёй галаве пад грукат колаў...

У нашы душы ўпаўзае восень. Ненадоўга адрынутая, яна вяртаецца, быццам на покліч настальгіі. Яна не напаўняе, а парожніць нашыя душы, ахутвае шэрай млявасцю. Таму я ўцягваю галаву ў плечы, сціскаюся ўвесь і ўцякаю. Я хаваюся ад гэтай нуднай шэрай аднастайнасці...



Фотаэцюд Аркадзя БІРЫЛКІ.

# НА СКРАЗНЯКАХ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫІ

Сацыялістычнае мысленне, па-першае, было пераважна канцэптуальным, па-другое, яно было структурным. Калі ўзнікала канцэпцыя (у любой сферы жыцця), яна рэалізоўвалася праз пэўную структуру, якая прасякала абшары імперыі ад краю да краю. І ў гэтым сэнсе сфера дзяржаўнай бяспекі нічым не адрознівалася ад сферы культуры. Структурныя схемы былі амаль аднолькавыя: цэнтр, рэспубліка, вобласць, раён. І нікога не хвалявала, што, скажам, у якімсьці глухім сібірскім мястэчку нават гіпатэтычна ў бліжэйшае тысячагоддзе не мог з'явіцца дзяржаўны злачынца — структурнае мысленне патрабавала, каб там быў раённы аддзел КДБ са сваім штатам, планам работы, квартальнай справаздачай... І ён там быў.

Тое самае і ў культуры. Кожнае селішча павінна было мець бібліятэку і клуб, незалежна ад рэальных патрэб гэтага канкрэтнага селішча.

Няма чаго і казаць, што такі падыход, хаця і меў свае станоўчыя бакі, быў неверагодна стратным. Да таго ж пры сваёй уяўнай «справядлівасці», ён адно тэарэтычна забяспечваў усім аднолькавыя ўмовы культурнага развіцця. Там, дзе з тых ці іншых прычын не складваліся варункі актыўнай культурніцкай дзейнасці, не дапамагалі і грошы. А там, дзе гэтая дзейнасць віравала, грошай не хапала, бо іх трэба было выкідаць на вецер, які гуляў у забытых людзьмі і богам напаўразбураных клубах. Натуральна, што ў новай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі такое становішча мала каго задавальняла. Таму перамены былі відавочнымі і непазбежнымі. Іншая справа, што гэтыя перамены не маглі адбыцца ў адначассе. А тыя, што ўжо адбыліся і адбываюцца, — «прамежкавыя». Сапраўдныя змены зробяцца не раней, чым сфармуецца новая эканоміка і адпаведны ёй сацыяльны лад жыцця, а таксама мыслення. Але ўсе мы жыхары сучаснасці, і нас звычайна не так хвалюе тое, што будзе, як тое, што ёсць. Каб паспрабаваць зразумець «тое, што ёсць», давайце пагаворым з работнікамі культуры Брэсцкай вобласці.

Кіраўнік абласнога ўпраўлення Віталь Андрэевіч Клімчук не ўтойвае сваіх рэфарматарскіх настрояў, хаця і не адмаўляе станоўчы вопыт мінулага. Калі б не бура перабудовы, гаворыць ён, яшчэ праз колькі год у кожным калгасе была б музычная школа, а ў цяперашняй сітуацыі здзейсніць задуму праблематычна. З іншага боку, новы час даў магчымасць адмовіцца ад многіх спарахнелых догмаў. Няма патрэбы змагацца за «статыстыку», з'явіліся ўмовы як для ідэалагічных, так і матэрыяльна-фінансавых манеўраў. Можна пераглядзець сетку ўстаноў культуры і пазбавіцца тых, што існуюць адно дзеля свайго існавання.

Дарэчы, праблема «скарачэння» — сёння адна з самых вострых. Выканкам вобласці прыняў рашэнне паменшыць штаты на 10-15 працэнтаў. А гэта значыць, што з кожных 100 работнікаў культуры 10-15 чалавек застануцца без работы, ці (каб не скарачаць нікога) 20-30 будуць пераведзены на палавінны аклад, які і ў поўным аб'ёме далёка не забяспечвае прыстойнага існавання чалавеку.

Але апошняе ніяк не ўплывае на пазіцыю Віталя Андрэевіча, ён перакананы — скарачаць неабходна, каб не пераводзіць дарэмна грошы на тыя ўстановы і тых работнікаў, ад якіх няма ніякай карысці. Сваю пазіцыю кіраўнік аргументуе шматлікімі прыкладамі, фактамі, параўнаннямі. Згадаю толькі адно з іх. У Францыі (50 мільёнаў насельніцтва) — 1500 публічных бібліятэк, у былым Саюзе (300 мільёнаў насельніцтва) — 150 тысяч публічных бібліятэк.

Праўда, тут можна заўважыць, што такія параўнанні часам бываюць не зусім карэктнымі, бо ў розных краінах тыя ж культуралагічныя структуры адыгрываюць не аднолькавыя ролі. Скажам, у той жа Францыі амаль кожнае кафэ выконвае ролю калі не бібліятэкі, то чытальнай залы і своеасаблівага клуба. Але гэтая заўвага ніякім чынам не адпрэчвае слушнасці і заканамернасці рэформы структурнага падыходу ў сферы культуры і замены яго на дыферэнцыраваны. Грошы, увага, клопат павінны накіроўвацца туды, дзе ад гэтага будзе карысць.

Натуральна, погляды таго, хто скарачае, адрозніваюцца ад поглядаў таго, каго скарачаюць. Даволі сказаць, што многія работнікі раённых аддзелаў культуры, вясковых клубаў і бібліятэк лічаць зусім не патрэбным само абласное ўпраўленне і перакананa даводзяць, што скарачэнне трэба пачынаць з яго ліквідацыі. Ды і сама праблема скарачэння тут, «на зямлі», губляе сваю метафізічную прывабнасць, бо яе захінае сум, а часам і адчай тых, хто падпадае пад звальненне. Зверху гэтыя людзі больш падобныя да лічбаў, а тут яны жывыя, кожны са сваім зусім не матэматычна-абстрактным горам.

Зразумела, што і да гэтай праблемы ў кожным месцы ставяцца па-рознаму. Усё шматгалоссе пераказаць немагчыма, і таму спынімся на двух, ці не найбольш распаўсюджаных, пунктах гледжання.

Любоў Мікалаеўна Фосцікава (Івацэвічы) не хавае свайго абурэння. У раёне плануецца скараціць 37 чалавек (ці перавесці на палову акладу), а гэтым часам штаты кантралюючых арганізацый (фінаддзелаў і да іх падобных) растуць, як грыбы ў дождж. А яны ж не толькі самі нічога не ствараюць, дык яшчэ замінаюць працаваць іншым.

Больш стрыманая ў ацэнцы сітуацыі Зоя Іпалітаўна Краўцова (Драгічын). Хаця тут і скарацілі 21 адзінку, але ў рэальнасці работу страцілі не многія. І не была зачынена ніводная ўстанова культуры. Гэта не выпадкова. У Драгічыне перакананыя, што вернуцца лепшыя часы, на культуру знойдуцца большыя грошы, а пакуль галоўная задача — не пабурыць тое, што нароблена папярэднікамі. Бачыце, таксама пазіцыя са сваёй логікай і аргументацыяй.

Дарэчы, Зоя Іпалітаўна не без задавальнення падкрэсліла, што Драгічынскі маладзёжны цэнтр ужо аказаў платных паслуг на 500 тысяч рублёў (план на ўвесь год — 160 тысяч). Са свайго боку, я падзяліў яе радасць. Яшчэ ніколі і нідзе культура не ўтрымлівала сябе на свае грошы, але пры нашай фінансавай нішчымніцы кожная спроба нешта зрабіць выклікае станоўчыя эмоцыі. Хаця тут заўсёды трэба зважаць, што культурай і капейчыну наўрад ці заробіш, затое сёе-тое можна ўхапіць з дапамогай маскультуры (відэасалоны, дыскатэкі і да таго падобнае).

Аднак вучыцца зарабляць грошы трэба. Гэта напэўна. І таму мяне зацікавіла размова з Юрыем Пятровічам Кулецкім, дырэктарам Дома культуры ў Івацэвічах. Юры Пятровіч і яго калектыў зарабляюць палову сваёй зарплаты. Аднак, калі я запытаўся, ці змаглі б яны зусім абысціся без дзяржаўнай датацыі, ён адказаў адмоўна. І адразу ўзрушана пачаў гаварыць, што «Закон аб культуры» не працуе, ні адна дзяржаўная структура ім не дапамагае, падатковая інспекцыя літаральна душыць інструкцыямі. І ўвогуле, абкладаць падаткамі мізэрныя прыбыткі клубаў — гэта злачынства супраць культуры.

Магчыма, Юры Пятровіч мае рацыю, толькі як яе давесці заканадаўцам? Як давесці заканадаўцам, што калі яны не могуць забяспечыць культуру ўсім неабходным, то павінны стварыць ёй такія ўмовы, пры якіх яна магла б дапамагчы сабе сама. Бо фінансавыя манеўры, жорсткая эканомія, скарачэнні маюць сваю мяжу, за якой здзічэнне, бездань.

Культура — дзіця згоды, яна квітнее, пакуль у чалавечых сэрцах спакой, і чэзне, губляе сябе сярод хаасу. Але калі што і можа перамагчы, згарманізаваць хаас, дык гэта культура. Вось такая атрымліваецца дыялектыка, з якой вынікае немудрагелістая выснова: паколькі мы не хочам хаасу, а хочам гармоніі, мы павінны ўсімі сродкамі падтрымліваць тых, хто атуляе лагоду ад сцюдзёных скразнякоў часу.

Віталь КАРДАШ.

# ЧЫЙ ПРАЦЭНТ АДУЖАЕ?

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь склаўся асаблівы тып двухмоўя: беларуска-рускае. Большасць жыхароў разумеюць абедзве мовы, але ў штодзённым жыцці часцей за ўсё карыстаюцца адной. Прычым у горадзе, у асноўным, зносіны адбываюцца праз рускую альбо змешаную руска-беларускую, а ў сельскай мясцовасці — праз беларускую альбо змешаную беларуска-рускую мовы.

Вынікі сацыялагічнага даследавання, праведзенага сацыялагічным навукова-даследчым цэнтрам Белдзяржуніверсітэта, сведчаць, што сваёй роднай мовай беларускую лічаць 53,4 % беларусаў і 6,9 % рускіх.

20,9 % беларусаў і 26,7 % рускіх разумеюць, але не размаўляюць на беларускай мове; 20,3 % беларусаў і 11,2 % рускіх свабодна валодаюць беларускай мовай і 59,8 % беларусаў і 56,0 % рускіх могуць толькі падтрымаць гаворку па-беларуску.

Колькі ж навучэнцаў жадаюць сёння вывучаць беларускую мову? 43,3 % беларусаў і 31,6 % рускіх хацелі б яе вывучаць; 40,7 % беларусаў і 42,1 % рускіх будуць вывучаць беларускую мову толькі ў тым выпадку, калі гэтага запатрабуе прафесія, 11 % беларусаў і 26,3 % рускіх зусім не хочуць яе вывучаць.

Так мы бачым, што моладзь, якая вучыцца, не надта імкнецца вывучаць дзяржаўную мову рэспублікі. Нежаданне вывучаць беларускую мову звязана, на наш погляд, перш ўсё з тым, што большасць навучэнцаў, паводле вынікаў даследавання, дрэнна ведаюць гісторыю і культуру Беларусі.

Сёння відавочна бракуе публікацый пра грамадска-гістарычныя і сацыяльна-эканамічныя ўмовы фармавання і развіцця беларускай нацыі. Беларуская культура, прадстаўніком якой з'яўляецца творчая інтэлігенцыя, у асноўным была рускамоўнай, што негатыўна адбілася і на нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа.

Нацыянальная культура фармуе нацыю. Уплываючы на чалавека перш за ўсё праз эмацыянальную сферу, яна спрыяе развіццю гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці, пачуццю сувязі сучаснага з былым і будучым. У сваю чаргу, нацыянальная самасвядомасць, нацыянальная культура напаўняе дзяржаўны суверэнітэт рэальным жыццёвым зместам, надае яму законную аснову.

Як сёння далучыць навучэнцаў да ўспрыняцця беларускай культуры? Перш за ўсё, на наш погляд, праз цэнтры адраджэння нацыянальнай культуры. І такія цэнтры ўжо ёсць: нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф.Скарыны, Беларускае навукова-гуманітарнае таварыства і г.д.

Выхоўваць любоў да беларускай культуры неабходна таксама і праз сродкі масавай інфармацыі. Вядучую ролю, на думку 34,4 % апытаных, павінна адыгрываць у гэтым працэсе беларускае тэлебачанне. Але яго глядзяць толькі 20,7 %; зусім не глядзяць 15,5 %, 62,1 % апытаных глядзяць некалькі разоў на тыдзень.

Сёння асаблівыя патрабаванні павінны прад'яўляць да фальклорных перадач, да тых, хто займаецца народнай творчасцю. Аднак часцей за ўсё ў такіх перадачах дэманструецца тэлевізійная тэхніка, тэлевізійныя магчымасці, а не фальклор. На наш погляд, аўтары фальклорных перадач павінны адмовіцца ад павільённых умоў. Моладзь не зусім ахвотна глядзіць выступленне беларускіх народных калектываў, калі ўзрост іх удзельнікаў далёка не маладзёжны. Таму трэба часцей па беларускім тэлебачанні паказваць выступленні тых народных калектываў, дзе спяваюць і танцуюць маладыя, прыгожыя юнакі і дзяўчаты.

Большасць апытаных асноўнымі крыніцамі ўзбагачэння сваіх ведаў па гісторыі Беларусі назвалі сродкі масавай інфармацыі (37,9 %), беларускую літаратуру (35,7 %) і кінафільмы (32,2 %).

Літаратура была і застанецца душою народа, адлюстраваннем яго самасвядомасці, Мастацкая літаратура выяўляе шматвобразнасць нацыянальных тыпаў, іхнюю прыроду і гістарычнае развіццё. І таму пытанне аб адказнасці пісьменніка перад народам гучыць сёння як пытанне аб змесце і значнасці тых каштоўнасцей, якія ён адстойвае і прапагандуе ў сваіх творах.

Сучасны стан беларускай літаратуры 27,5 % беларусаў і 20,9 % рускіх ацанілі як пачатак адраджэння, а 20,3 % беларусаў і 16,5 % рускіх — як крызісны.

21,4 % апытаных не змаглі назваць свайго любімага беларускага пісьменніка ці паэта, а 61,1 % не назвалі свайго любімага беларускага рэжысёра альбо акцёра. Усё гэта сведчыць аб тым, што ў рэспубліцы пакуль няма ні нацыянальнага чытача, ні нацыянальнага гледача. І ў першую чаргу гэта звязана з тым, што большасць жыхароў рэспублікі ці дрэнна ведаюць, ці зусім не ведаюць беларускай мовы.

Для адраджэння беларускай мовы, на думку большасці апытанных (40,4 %), неабходна перавесці на гэтую мову ўсю сістэму адукацыі і выхавання. Якія ж формы навучальна-выхаваўчага працэсу найбольш эфектыўныя ў фармаванні нацыянальнай самасвядомасці?

47,7 % апытаных лічаць — зносіны з выкладчыкамі-культуролагамі і мастацтвазнаўцамі; 37,4 % лічаць, што вельмі эфектыўныя лекцыі па гісторыі і тэорыі культуры; 23,0 % аддаюць перавагу спецкурсам; 10,4 % лічаць эфектыўнымі дыпломныя і курсавыя працы па нацыянальнай культуры і 9,2 % лічаць, што эфектыўныя — семінары.

Сапраўды, узровень нацыянальнай культуры выкладчыкаў навучальных устаноў моцна ўплывае на фармаванне ведаў у навучэнцаў. Аднак гэты ўзровень не заўсёды бывае дастаткова высокі. Аб гэтым сведчаць і вынікі даследавання. 44,0 % апытаных лічаць, што ўзровень нацыянальнай культуры ў выкладчыкаў мастацтвазнаўчых і культуралагічных дысцыплін сярэдні, а 34,4 % лічаць, што гэты ўзровень сярэдні і ў выкладчыкаў грамадазнаўчых і гуманітарных дысцыплін. Таму сёння адной з важнейшых задач з'яўляецца выхаванне выхавацеляў, стварэнне нацыянальных выкладчыцкіх кадраў як носьбітаў высокага ўзроўню ведаў пра гісторыю і культуру Беларусі.

На наш погляд, сёння ў рэспубліцы ствараюцца ўсе ўмовы для таго, каб жыхары рэспублікі маглі свабодна авалодваць беларускай мовай. Неабходна па меры падрыхтоўкі кадраў пашыраць сферу ўжывання беларускай мовы ў рабоце дзяржаўных устаноў, у сферы адукацыі і культуры. Трэба сёння больш актыўна развіваць бытавую беларускую мову, г. зн. у крамах, на транспарце, у сферы паслуг.

Для адраджэння беларускай мовы, беларускай культуры сярод насельніцтва рэспублікі шмат што абавязаны зрабіць прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі: беларускія пісьменнікі, кампазітары, работнікі беларускага радыё і тэлебачання. Іх творы, іх беларуская мова павінны быць узорамі для пераймання, выклікаць жаданне не толькі слухаць, але і вывучаць беларускую мову. Менавіта прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі павінны вярнуць беларускай мове, як мове старажытнаславянскай, яе колішняе прыгожае гучанне, карані якога захаваліся сёння ў беларускай эміграцыі, беларусаў замежжа.

Веды і вывучэнне моваў здаўна лічыліся адзнакай высокай культуры і адукаванасці чалавека.

«Па тым, як кожны чалавек ставіцца да сваёй мовы, можна зусім дакладна меркаваць не толькі пра яго культурны ўзровень, але і пра яго грамадзянскую значнасць», — лічыў К.Паўстоўскі. Таму праблема вывучэння беларускай мовы непарыўна звязана з павышэннем агульнай культуры і духоўнага багацця людзей.

Крысціна **ЛАПІЧ.**



Наш фотакар Жанна МАЁРАВА.

Галіна БУЛЫКА

# ПЛЫНЬ ВЕЧНАСЦІ



Што такое мастацтва? Існуе неверагодная колькасць вызначэнняў. Здаецца, з падобнага пытання пачынаў кожны, хто хоць нейкім чынам датыкнуўся да эстэтыкі. Я не рызыкую блукаць ў тэрміналагічнай гушчэрні і таму вызначу, як бачу, як уяўляю. Мастацтва складаецца з сячэнняў патоку вечнасці плашчынамі канкрэтных часоў. Так, напрыклад, прамень святла, прасякаючы празрыстую перашкоду, набывае новыя якасці і сілы. Перашкода можа быць аметыставай, шкляной, пластмасавай, але той, хто назірае за гэтым працэсам датыкнення, прасякнення, пераўтварэння, беспамылкова адчувае, што светлавы паток выносіць нанова адзін і той самы прамень. Так і вандроўныя думкі чалавецтва прасякаюць залатыя, каменныя, ледзяныя душы творцаў. Тэмы існуюць вечна. Нявечная тэма фізічна не можа выжыць, бо з'яўляецца не ў пераможным патоку вечнасці, а ў перпендыкулярнай яму перашкодзе. І таму, калі скрыжоўваюцца паток і плашчына, то навастораны прамень выносіць на свет Божы толькі роднаснае вечнаму руху, нязменнае, пакуль нязменны чалавек: тэмы жыцця, смерці, кахання, харастваа, мацярынства, бацькоў і дзяцей, народу, радзімы... Вечнымі тэмамі поўніцца вечная кніга «Біблія», якая дорыць многім пакаленням не адно сваю мудрасць, але і неразгаданыя прадбачанні і прадчуванні. Мастацтва —таксама прадбачанне і прадчуванне, але таго, што магчымае, што ўяўнае. У мастацтве спрасоўваюцца мінуўшчына, цяперsuccчына і наступнасць — тры блізкія часы — і надаюць плашчыне-перашкодзе стэрэаскапічную аб'ёмнасць.

«А як жа «надзённыя радкі?» — запытаецеся вы. Нядаўна ў адной з устаноў культуры нашай газеце выказалі пажаданне: «Друкуйце вершы на розныя тэмы: пакуль выходзяць кнігі, творы паспяваюць так састарэць, што нічога немагчыма падабраць для сцэнараў і літаратурных кампазіцый». Гэтымі развагамі я імкнуся адказаць на падобныя пытанні. Чытайце са сцэны «Пахне чабор» і «Мой родны кут». Нязменна надзённыя радкі. Дарэчы, нават нямодны зараз Фрыдрых Энгельс выказаў думку, што рэвалюцыйная паэзія не існуе доўга, бо заклікана ўздзейнічаць на масы, а значыць — утрымліваць у сабе і забабоны, уласцівыя масам. А наступнікам забабоны папярэднікаў непатрэбныя. Тая ж схема патоку і перашкодаў.

З нядаўніх часоў мы згадалі даўно забытае старое: агульналюдскія каштоўнасці пераўзыходзяць класавыя ці нацыянальныя. Але і да той кардынальнай згадкі мы ўспрымалі грачанку рабаўладальніцу Касандру адно як вяшчунку. Паток вечнасці незалежны ад нашай свядомасці, ад будзённых праблем старажытнай Трої ці вялікай дэпрэсіі. Каго зараз цікавяць палітычныя погляды Джаконды, а разам — і Леанарда? Якая розніца, на чый узор выразаў Божую Маці невядомы беларускі мастак, калі нават імя стваральніка больш падуладнае часовасці, чымсьці твор. І народныя песні, балады, казкі таксама некалі нехта прыдумаў. Той адзіны аўтар меў імя і долю. Імя свайго народу і долю свайго часу.

Ці ўкладаецца ў вызначаныя каардынаты несвядомы падзел нашага сённяшняга мастацтва на беларускае і беларускамоўнае? На нацыянальнае і касмапалітычнае? Чалавек-творца ў мары сваёй роўны Богу. І ці не Боская гэта функцыя — адбор? І ці не часовую задачу мы вырашаем, калі імкнёмся імгненна вызначыць мастацкую вартасць твора? Дарэчы, гістарычны вопыт сведчыць, што сучаснікі ніколі не вызначаліся беспамылковасцю. І гэта таксама вечная ісціна.

Мастак творыць сябе, з сябе, дзеля пошуку сябе. Ён прапускае вібрацыі свету праз уласную душу і арганізуе іх на ўласнае падабенства. А мы хочам, каб кожны твор разумелі ўсе навокал, і забываемся, што часта не ў стане зразумець сваіх бацькоў, дзяцей, сяброў, што мужчынская і жаночая «псіхалогія» двухвостра таямнічыя.

Мастаку патрэбна, у сутнасці, адно: магчымасць прыслухацца да сябе і пачуць увесь сусвет. Каб потым, калі-кольвек, той, хто прыдзе, адчуў у даўнім творы перагук з уласнай доляй.

Француз піша па-французску, японец вырэзвае японскую гравюру. А беларус? Беларус належыць да тых народаў, у якіх мастацтва доўгія гады мусіла выступаць у якасці палітыкі, замест палітыкі, бо іншай нацыянальнай палітыкі проста не было. Але палітыка ніколі не належала да вечных тэмаў. І таму будзем спадзявацца, што наша мастацтва пераадолее і гэту часовую перашкоду.

# ДЗІВОСЫ НА ПАПЕРЫ

Захапіўшыся «папяровым» дзівацтвам, я нават не спадзяваўся, што выцінанкі зоймуць трывалае месца ў маім жыцці. У жанры выцінанак мною былі аформлены нямала кніжак для дзяцей, сярод іх — «Жывыя літары» Артура Вольскага, «Казка пра паўліна» Вольгі Іпатавай, кніжкі паэзіі Святланы Басуматравай, Валянціны Хамчук, Галіны Каржанеўскай і іншыя.

Выцінанкі хаваюць у сабе столькі невытлумачальнага характва, таму іх не зблытаеш ні з той жа вышыўкай, ні з графікай, ні з аплікацыяй. Яны існуюць самі па сабе.

Пачаўшы размову пра выцінанкі, варта прасачыць, як жа развівалася незаслужана забытае народнае мастацтва выцінанкі. Шчаслівы павeдаміць чытачам: выцінанка апошнім часам перажывае сваё адраджэнне — і менавіта як мастацтва даволі высокага ўзроўню.

Выцінанка — мастацкая выразанка з паперы. Што і казаць, з вынаходкаю паперы чалавецтва іншымі вачыма зірнула на сябе. На сённяшні дзень нават цяжка ўявіць наша жыццё без гэтага дзіва. На паперы можна пісаць, маляваць, друкаваць на ёй кнігі — тое найвялікшае дзіва, што напрыдумалі людзі. Так, без паперы нам аніяк не абысціся...

Самабытнае народнае мастацтва выцінанкі (выразанкі) на тэрыторыі Беларусі вядома здавён. Выявы шматлікіх выцінанак яшчэ і цяпер можна сустрэць не толькі ў кнігах канца васемнаццатага стагоддзя, але і «жывыя» выцінанкі, зробленыя безыменнымі майстрамі і невядома якім чынам патрапіўшыя ў архіўныя зборы сярод хвалюючых дакументаў старасветчыны. Захаваліся ўзоры культавай выцінанкі, якія выконваліся да канкрэтных рэлігійных свят, як своеасаблівая арыгінальная аздоба для інтэр'ераў (пераважна ў касцёлах). На фотаздымках, зробленых у пачатку дваццатага стагоддзя на тэрыторыі Беларусі, можна ўбачыць выцінанкі, якімі вяскоўцы ўпрыгожвалі свае хаціны.



На жаль, час няўмольны. Выцінанак з багатай скарбонкі нашай спадчыны амаль што не захавалася. І хаця мы добра ведаем, што папера жыве даўжэй, чым жалеза, але ж ...

Распаўсюджанне выцінанкі было абумоўлена некалькімі прычынамі. Першая — папера нечакана і хутка знайшла сабе дарогу да вёскі.

Другая, не менш значная, — беднасць даўнейшае вёскі. Вяскоўцы не маглі дазволіць сабе такой раскошы, каб набыць у краме мануфактурныя фіранкі, шукаць якую-небудзь аздобу на палічку ці на шафу. Можна зразумець жаданне гаспадыні. Трэба ж хаця б нечым ажывіць сіроцкае ўбранне сваёй сялянскай хаты. А пад рукой хіба раскашавалі кветкі, што раслі ў палісадніку, ды побач танная папера, набытая ў горадзе. І кожны аўтар карпеў над папяровымі карункамі, а ў выніку жытло ўпрыгожвалі птушкі, расліны, самыя розныя ўзоры, кветкавыя кампазіцыі і мудрагелістыя карункі, што паўтараліся на папяровай «карціне» па многу разоў.



Як бачым, вялікіх выдаткаў выцінанка не патрабавала. Папера мелася, дый за рыштункам хадзіць не трэба: нажніцы для стрыжэння авечак заўсёды пад рукою. Якія яны грубыя! Але варта было майстрысе выцінанак узяцца за справу, як на вачах «ажывалі» задзірыстыя пеўні, рагатыя алені, казачныя птушкі. А сюжэты народным майстрам далёка шукаць не трэба, бо вядома, што акаляла простага чалавека і якія клопаты даймалі яго ў паўсядзённым змаганні за хлеб, за цяпло, за сваё месца пад небам.

Цікавымі выходзілі выцінанкі з выкарыстаннем геаметрычных паўтораў. Стваpаўся асабліва дзіўны настрой. Уражвалі і малюнкі, што выразаліся з паперы без папярэдняга накіду, а імправізавана. Як ні дзіўна, але на такую вось імправізаваную выцінанку ўплываў і настрой творцы, і пачуцці мастакоўскай душы, і нават тыя гледачы, што збіраліся вакол вясковага чараўніка з нажніцамі.

Па згадках маёй маці, Галіны Сцяпанаўны, у пачатку трыццатых гадоў папяровыя выцінанкі прадаваліся на кірмашах у Слуцку, Пагосце, Любані. Крыху пазней іх можна было купіць і ў Старых Дарогах, і ў Бабруйску. Вывозіліся на продаж і зробленыя ўмельцамі розныя папяровыя цацкі, сярод якіх карысталіся попытам адмысловыя, арыгінальныя, упрыгожвані на елку. Цешылі вока і рознакаляровыя ліхтарыкі, як чатырохкутныя, так і шасцікутныя, у аздабленні якіх выкарыстоўвалася выцінанка.

Той, хто браўся за нажніцы і меў, як кажуць, дар ад Бога, не спыняўся на адных выцінанках, а рабіў шмат якія рэчы з паперы. Тут і дамкі, і караблі, і самалёты... На многіх папяровых вырабах анілінавымі фарбамі рабілася аздоба. Разгорнеш такі «гармонік» у даўжыню на некалькіх метраў і ўбачыш дружны шнур кветак.

У пачатку пяцідзесятых гадоў мне давялося нямала вандраваць па Палессі. Я пабываў у вёсках Глушкавічы, Муляраўка, у гарадскіх пасёлках Петрыкаў і Жыткавічы і сустракаў выцінанкі, якімі ўпрыгожваліся вокны, кніжныя этажэркі; гэтак сама красаваліся яны ў рамках пад шклом, як арнаментальная аздоба сямейных фотаздымкаў.

Дарэчы, у мястэчку Ружаны, што на Брэстчыне, жыве ўмелец Варанецкі, які стварыў нямала цікавых выцінанак. У Акадэміі навук, у Музеі старажытнай беларускай культуры, экспануецца некалькі імправізаваных кампазіцый гэтага майстра, ёсць стэнд, прысвечаны і аўтару артыкула — лаўрэата сусветнай выставы выцінанак.

За апошнія гады шпалерная ліхаманка ахапіла не толькі горад. На вёску хлынуў бясконцы паток безгустоўшчыны. Аднастайныя, бляклыя па расфарбоўцы, прымітыўныя па мастацкіх вартасцях шпалеры зрабілі сваё. Тысячы вясковых хат сталі падобныя адна да адной, як дзве кроплі вады. Робіцца прыкра ад думкі, што пры афармленні вясковых хат не знайшлося нават месца для арыгінальных вырабаў народных майстроў. З вялікай цяжкасцю адшукаеш у вясковай хаце саламяных павукоў пад столлю, арыгінальныя росписы на шкле, адмысловыя папяровыя кветкі, гербарыі з раслін. Што ўжо казаць пра папяровыя выцінанкі...

Мастацтва выцінанак даволі старадаўні від народнага мастацтва і вядомы ў Кітаі ці не тысячагоддзе таму. Наогул, Кітай мае свае непаўторныя, выдатныя традыцыі гэтага цікавага мастацтва. Дарэчы, сакрэты вырабу паперы перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

...Наша сустрэча з многімі чараўнікамі выцінанкі з Украіны, Расіі, Літвы адбылася ў Харкаве, дзе колькі гадоў таму праводзілася першая ў краіне выстава мастацкай выцінанкі. Гледачы пазнаёміліся з выцінанкамі народных майстроў Масквы, Кустаная, Курска, Вінніцкай, Палтаўскай і Днепрапятроўскай абласцей. З Літвы былі Юлія Даніляўскене і Ніёля Юрэнене. Прадстаўляць Беларусь выпаў гонар мне. Ініцыятарам правядзення і душой, без перабольшвання, гэтай унікальнай за апошнія пяцьдзесят гадоў выставы быў доктар тэхнічных навук прафесар Аляксей Максімавіч Петрычэнка, апантаны аматар і нястомны збіральнік выцінак. Яго калекцыя даволі ўнушальная — дзесяць тысяч узораў выцінанак з усіх краін свету: Кітая, В'етнама, Японіі, Лаоса, Польшчы.



...Я прымасціўся ў куточку, дзе экспанаваліся работы, і, выцягнуўшы з дарожнага хатуля паперу з нажніцамі, пачаў чараваць над выцінанкай. Вакол мяне за лічаныя хвіліны сабралася нямала наведнікаў, каб быць сведкамі таго, як нараджаецца дзіва.Калі работа была закончана, разгарнуў гатовую выцінанку, распраставў яе, і на белым ватмане прысутныя ўбачылі чатырох задзірыстых пеўняў, якія прымасціліся на дрэве з густой шапкай прыгожых лісточкаў.

Прафесія фотарэпарцёра ці не штодня гукала ў дарогу, бо і праўда ж — ваўка і карэспандэнта кормяць ногі. І ў кожную паездку браліся нажніцы, папера і натхненне.

І дарогу «акупіў» спаўна, і стварыў шэраг работ, частка з якіх вандравала па выставах, асела ў музеях ці прыватных зборах.

Задумак шмат, а часу бракуе. Дый на хлеб надзённы зарабляць трэба, а таму пра выцінанкі прыгадваю ўсё радзей і радзей.

Рыхтую шэраг новых работ па тэме «Помнікі дойлідства Беларусі». Калі ўсё будзе добра, дык мяркую «выставіцца», каб паказаць людзям новыя дзівосы на звычайнай паперы.

**Вячаслаў ДУБІНКА.**

*На здымках:*
Узоры выцінанак, выкананых у розную пару.
Фотарэпрадукцыі аўтара.

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ
ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

*Заснавальнік* — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА
Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:
А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н.ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В.ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Уладзімір КЛІМОВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА 25, кв. 12. Тэлефон: 27-83-18

©
Фармат А3, Індэкс 63875
Агульны наклад 7282 Замова 1347
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом Друку".
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.